

Ці атам бяспечны? ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Пытанні вакол торфу ➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 27 (3347) Год LXV | Беласток, 5 ліпеня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Фота Барбары Сойкі

# Сынку, Багдане, устань — зноў госці да цябе прыехалі…

**Багдан ДУДКО** адышоў раптам у 52 гады. 23 чэрвеня, у 9.30, так як нарадзіла яго мама Леакадзія з Цісоўкі ў Беластоку. Два тыдні раней трапіў у бальніцу, прывезены скорай з дзедкавай хаткі. Апошняе ў жыцці інтэрв'ю даў у той дзень Беларускай праграме Польскага Радыё. Слабеючым голасам расказваў пра свае планы — выданне новых кніг, сустрэчы на фестывалі «Дарога на Усход» у Будзе-Рускай, у Беларускіх трыялогах, на новых аўтарскіх сустрэчах «Паэты з-пад лесу» з яго апошняй выдадзенай пры жыцці кнігай «Ziemia zaklęta» і кнігай Міры Лукшы «Wiersze spod lasu» — яны ж абое з Цісоўкі і Фонду «Белая Вежа». Чакала яго аперацыя на сэрцы, на якую падпісаў згоду — але ў час каранавіруса іншыя хворыя чакаюць ратунку часам да канца, у самоце. На жаль, арганізм Багдана адмовіўся прымаць літры лякарстваў, наступіла паліорганная недастатковасць, і Багдан, траціўшы дыханне, згас.

Багдан Дудко быў рэдактарам і аніматарам культавага мастацка-літаратурнага часопіса «Карткі», які выходзіў у Беластоку, славутага шырэй чым у Польшчы. «Карткі» сталі знакавым і важным часопісам, калі сталі друкаваць «правінцыйных» і беларускіх аўтараў — успамінала Кацярына Мяжынская з Універсітэта ў Беластоку. — Пачалося ад «беларускага» нумара з малюнкам Лявона Тарасэвіча». Гэта той, што лёг разам з Багданам у магілку… Рэдакцыя нерэгулярніка знаходзілася таксама ў знакавым пабе «Маршанд». Там рэдакцыя сустракалася і выдавала часопіс. «Карткі» выдаваліся ў 1990-х і да самага рубяжа 2005-2006 гадоў. Потым, у 2012 годзе, адбылася часовая рэактывацыя часопіса. Багдан вярнуўся ў родную вёску ў Міхалоўскай гміне (яна выдала яго апошнюю кнігу). У дзедкаву хату. «Такі дом, як твой — поўны космас, — казала Кора, калі наведвала яго ў Цісоўцы з мужам Камілем Сіповічам (сынам беларускага дзеяча Пятра Сіповіча). Кора захапілася хаткай і яе атмасферай, поўнай кніг і часопісаў, з плакатамі са здымкамі Адама Міцкевіча і Сакрата Яновіча. Хатка яшчэ трымаецца, хаця адзіны яе ўласнік, бывала, не паліў у ёй нават зімой. Нягледзячы на тое, што «Карткі» перасталі выходзіць шмат гадоў таму (апошні нумар вісіць у інфармацыйнай хмары ў Юркі Зінчука), Дудко жыў імі ўвесь час. На самой справе іх легендай, пра працяг якое марыў.

…Багдан Дудко толькі што выдаў без асаблівага розгаласу пяты зборнік сваіх паэтычных разважанняў. «Заклятая Зямля». Мела быць «праклятая»? Распавядаючы, між іншым, пра родную ваколіцу рэдактара «Картак», якія карысталіся павагай далёка за межамі Беластока і Беласточчыны.

«Я правёў дзяцінства ў гэтым доме, бацькі перадалі яго мне», — казаў Багдан Дудко, спыняючыся перад маленькай драўлянай хаткай, схіленай да зямлі. — У гэтай хатцы я размаўляў па-беларуску, як уся наша праваслаўна-каталіцкая вёска Цісоўка. Пра яе пісаў Рышард Капусцінскі ў рэпартажы «Далёка» ў сваёй першай кнізе «Буш папольску».

Я нічога не раблю з гэтым домам, нічога тут не мяняю. Я хачу быць у гармоніі з прыродай. У гэтых высокіх травах хаваюцца каты, птушкі, ёсць мышы. Часам заходзяць у маю хату, але я не маю да іх прэтэнзіі. Дом у Цісоўцы быў пабудаваны з дабротнага дрэва з Белавежскай пушчы: гэтыя бэлькі праслужаць яшчэ не адны 50 гадоў. Над падмуркам намаляваны аранжавай фарбай 1948 год». Дом на дваццаць гадоў старэйшы ад Багдана. Казаў: «Хатка крыху сыплецца, але трымаецца. Пэўна, перажыве і мяне. Зарослае поле побач з домам цягнецца аж пад Свіркоўшчыну, дзе жылі Лукшы. Цішыня, вібруючая птушкамі. Да мяжы з Беларуссю «як кінуць бярэтам». На ганачку памежнікі прымацавалі інфармацыю, што нельга ісці ад Беразіны ў Кандраткі. «Ніколі раней не было праблем, каб тудою пайсці. Там у Беразіне помнік партызанам. Ваколіцу ведаю як уласную кішэню, таму што шмат гадзін назіраў праз бінокль за птушкамі». А верш пра Беразіну Багдана Дудко апынуўся ў нізцы вершаў на агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «Дэбют», арганізаваны «Нівай». Багдан двойчы быў яго лаўрэатам — раз заняў першае месца, раз другое. «Ніва» выдала яму адну з апошніх кніг — двухмоўную «Даліна Свіслачы і Нарвы». Гэта была таксама вялікая падтрымка аўтару і арганізатару, які, страціўшы працяг сваёй ідэі, быў вельмі самотны і бяссільны. Чакаў гасцей, якія гурмамі раней з'язджаліся на фэст «Свет на абочыне». Заязджаў у Беласток у «Ніву». Працягваў працу ў Фондзе «Белая Вежа», які выдаваў таксама і яго кнігі для дзяцей «Ваўчок-маўчок», «Бубусь Пухачок». Яшчэ многа чакалася — было яшчэ шмат у яго пукатых блакнотах, у славутым рэдактарскім чорным партфелі. Маме казаў, едучы з Цісоўкі, што спыніцца ў Мацька Халадоўскага. Мама сустрэла і пазнала нас на пахаванні — дзякавала Гандзі, Мацьку, Яўгену, «Ніве», памяць аб якіх грэла Багдана ў выстылай хатцы.



Фота Міхала Косцы

— Часам да мяне прыязджаюць сябры, тады я запальваю печку, але я нават не хачу займацца самім сабой, — прызнаваўся Багдан. — Я да гэтага прызвычаіўся столькі гадоў.

Госці, госці, госці… Выдалі «Карткі» і «Народны альбом», і «Юдаша» Уладзіміра Паўлючука, «Вершы тутэйшыя» Міры Лукшы, «Апавяданні з-над Нарвы» Міраслава Грыкі з Рыбакоў, «Метафізіку правінцыі» Янка Камінскага з Ярылаўкі, вершы Юркі Плютовіча і сорак іншых кніг у «Бібліятэцы Картак». Выдаваў Багдан кнігі, сустракаўся з «бязмежнікамі», ладзіў літаратурныя фэсты, бенефісы — між іншым Уладзіміра Паўлючука і Сакрата Яновіча. Кепскія тэксты паліў з сябрамі на рытуальным кастры. Крыху мітыгаваўся, што спаліў Маслоўскую (вершы). Можа, вырасла б з яе паэтка? Хаця, папраўдзе, Багдан Дудко не мыліўся, калі гаворка пра літаратуру і творы. Бывала, памыляўся ў жыцці. Ягоная дабрыня, інтуіцыя, вера ў людзей і любоў — пра гэта трэба выразна сказаць: нарабіла яму таксама ворагаў. «Багдане, ты сярэдняга росту, але заўсёды вялікі быў!» — сказаў над яго магілай Янка Камінскі, а нумар «Картак» (з вершам тутэйшым пра Багдана і інтэрв'ю з Вольгай Такарчук пра свабоду), які на труну на сухім пясочку ялоўскага могільніка паклаў Дарак Жукоўскі, без ветру раскрыліўся і памахаў да нас лісткамі. І ўсе заплакалі, нават далакопы, калі Гандзя Кандрацюк заспявала «Ой ты жураванька, чаму ж ты так рано з выраю вярнуўся»… Ой, чаму ты, наш Дудочку, так рана ў вырай паляцеў…

Міра ЛУКША






# Радасць ад гульні без правіл

Бадай яшчэ ніколі выбарчая кампанія ў Беларусі не выклікала такога ажыятажу, як гэтым летам. Палітызацыя эліт і народных мас бачная нават няўзброеным вокам. І пакуль Польшча рыхтуецца да прадказанага ўсімі другога туру выбараў свайго прэзідэнта, Беларусь сама не ведае, да чаго яна рыхтуецца і чаго чакае.

У Польшчы будуць выбіраць паміж правацэнтрысцкім прэтэндэнтам на пасаду прэзідэнта, цяперашнім кіраўніком дзяржавы Анджэем Дудам і апазіцыйным прадстаўніком, умоўна левацэнтрысцкім, Рафалам Тшаскоўскім. І тут шмат будзе залежаць ад таго, каго заклічуць падтрымаць іншыя кандыдаты, якія фігуравалі ў першым туры. З найбольш крайнімі палітыкамі то хіба зразумела, а вось пазіцыя „бронзавага прызёра” выбарчай гонкі Шымона Галоўні і яго таксама шматлікіх прыхільнікаў можа стаць вызначальнай. У кожным разе шанцы двух прэтэндэнтаў на пасаду амаль роўныя, а галасы выбаршчыкаў будуць палічаны камісіямі дакладна.

Беларусы з 1994 года могуць толькі марыць пра другі тур галасавання. І зараз можна прагназаваць да 9 жніўня і на гэты дзень што заўгодна, але толькі не другі тур. І гэта пры тым, што ўжо ўсяму грамадству зразумела, што пры сумленным падліку галасоў Лукашэнка ніяк не можа выйграць гэтых выбараў. Але для „правільнага” падліку ў дзяржаве ёсць такі адыёзны персанаж як старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына са сваімі шматлікімі памагатымі. Актыўным у выбарчай кампаніі людзям, якія зараз хацелі патрапіць у склад участковых выбарчых камісій, яна так і заявіла: чаго вы лезеце са сваімі правіламі ў наш манастыр!? Тут і каментаваць няма чаго. Чыноўнікі-цяперцы даўно прыватызавалі і выбары, і ўсе дзяржаўныя структуры. Іх вельмі раздражняе, калі нехта заклікае да законнасці і імкнецца рэалізаваць свае права ўдзелу ў выбарчым працэсе.

Цяпер у Беларусі адбываецца так званая рэгістрацыя кандыдатаў. Зразумела, што ў кампанію да нязменнага „гаранта стабільнасці”, як ён сам сябе называе, будзе зарэгістравана некалькі статыстаў, якія хоць і не назбіралі патрэбных сто тысяч подпісаў, але дапамогуць стварыць хоць бачнасць прыходу людзей на выбарчыя ўчасткі. Інтрыга застаецца з рэгістрацыяй альбо нерэгістрацыяй Святланы Ціханоўскай і Віктара Бабарыкі. Бабарыка ўвогуле пад арыштам, так як і Сяргей Ціханоўскі — кіраўнік штаба Ціханоўскай. Іх прысутнасць на лісце кандыдатаў уладам вельмі патрэбная для забеспячэння яўкі выбарцаў, але ўладам зусім непатрэбныя дзеянні каманд гэтых прэтэндэнтаў, якія не прапісаныя ў сцэнарыі.

Уладам сёлета вельмі хацелася б паўтарыць пошлы спектакль „пагарэлага тэатра” ўзору 2015 года. Тады дэкарацыі і акцёры былі настолькі прымітыўнымі, што бальшыня „гледачоў” папросту не захацелі скарыстацца сваімі „білетамі”. Прымусовымі загонамі на ўчасткі яшчэ неяк удалося забяспечыць мінімальную яўку і бачнасць народнай падтрымкі. Але ўжо тады многія зразумелі, што і „кароль”, і яго світа абсалютна голыя. Прайшло пяць гадоў і ідэальны для ўлады сцэнарый фарсу рассыпаўся як домік з карт. Ранейшай радасці ад гульні без правіл няма. Упершыню так задоўга да дня асноўнага галасавання рэжыму даводзіцца выкарыстоўваць дубіну „праваларадку”. Першую хвалю пратэстаў жорсткімі захадамі, пачатымі крымінальнымі справамі, незлічонымі затрыманнямі і адміністрацыйнымі судамі ўдалося збіць. Але ці не выкліча ўсё гэта да 9 жніўня валу пратэстаў? Сталіца Беларусі Менск бурліць незадаволенасцю, расце актыўнасць і ў многіх іншых гарадах.

Рэгістрацыя кандыдатаў завершыцца да 14 ліпеня. Тады стане ясна, ці ўлады пойдуць на поўную „стэрылізацыю” працэсу і пакінуць на „вырабах” толькі надзейных спарынг-партнёраў ці будуць імкнуцца выкарыстаць гібрыдны варыянт вядзення сваёй кампаніі. Далей шмат што будзе залежаць ад кандыдатаў, якія дэкларуюць сябе як альтэрнатыўныя. Ці яны будуць шукаць мазахісцкае задавальненне ад гульні без правіл па запушчаным сцэнарыі, ці прыдумаюць нейкія неардынарныя крокі і паспрабуюць пераламаць сітуацыю на карысць перамен.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Каб было...

Хтосьці аднойчы падумаў пра сябе і паставіў важнае пытанне: «Што ведаюць пра беларусаў тыя, хто ведаюць толькі беларусаў?» Асабіста я сустракаўся з мудрымі і дурнымі беларусамі, але, безумоўна, гэтага недастаткова, каб сказаць з поўнай упэўненасцю, што ўсе беларусы мудрыя ці дурныя людзі. Так, ёсць такія і такія. Ва ўсякім выпадку, нават самы разумны часам пальне страшнае глупства. Што ведаюць пра Польшчу тыя, хто ведае толькі Польшчу? А што з палітыкамі, якія ведаюць толькі палітыку? Не кожны палітык цынічны, хаця ён часам прымае цынічныя рашэнні з поўнай свядомасцю. Але калі ён гэта робіць, ці ён ужо цынічны да косці, ці гэта проста так атрымалася?.. У Польшчы і Беларусі вельмі спрэчныя прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка і Анджэй Дуда дамагаюцца перавыбрання. Абодва спадары ўжо цынічныя да касцей, ці іх цынізм навязаны толькі палітычнымі абставінамі? У любым выпадку, абодва гэтыя спадары выклікаюць у сваіх краінах амаль каранавірусную перадвыбарчую ліхаманку. Зараз пераможцам першага тура польскіх выбараў з'яўляецца Анджэй Дуда, які не спыняецца ў пафасных абяцаннях і патрыятычных загаворах. Аднак гэтага, безумоўна, недастаткова для дасягнення электаральнай большасці. У рэшце рэшт, за ім па-ранейшаму застаецца ўтапічная, але выразна акрэсленая ідэя нацыянальнай дзяржавы і магутнай дзяржавы, якой ён з'яўляецца міжвольным фронтменам. Усе выбаршчыкі гэта адчуваюць, хоць можа толькі інтуітыўна. На жаль, калектыўны прагматызм і нялёгкі сацыяльны практыцызм, наступствы якога можна зведаць толькі праз шмат гадоў, а то і дзесяцігоддзяў настойлівых намаганняў, заўсёды саступаюць ідэям. Пакуль у іх простыя і выразныя абрысы і іх змест шырока зразумелы, яны могуць здацца ўсім блізкімі. І больш не трэба, каб пераканаць большасць выбаршчыкаў, што камфортны прэзідэнцкі зэдлік павінен заняць такі фронтмен. Таму што цяпер лепш адразу ж вылучыць гэтую ідэю, нават калі яна, такім чынам, была б разбуральнай для нацыі, чым калісь, а потым атрымаць выгаду сваёй напружанай працы. У нацыянальнай палітычнай і ідэалагічнай сварцы, якая перамагае ўсе выбары новай улады, не перамагаюць звычайныя людзі, нават не палітыкі ці ананімная частка грамадства, абапіраючы свой палітычны выбар на нейкіх традыцыях, на нейкіх перакананнях, на нейкім светапоглядзе, на нейкіх надзеях, але... гэтыя праклятыя ідэі. Яны заўсёды знойдуць сваё месца ў падручніках, якія займаюцца гісторыяй ідэй. Чым больш яны апантаныя, тым больш прывабныя і захапляльныя для мас, якія, у сваю чаргу, імі больш гарапь, чым больш рэальнасць, з якой яны ўзніклі, недарэчная, якая характарызуецца блізарукасцю, беспарадкам, карупцыяй і, напэўна, таксама дробязнасцю палітыкаў. І, дарэчы, я не чуў, каб палітыкі, якія адыходзілі ад улады, калісьці прыносілі прабачэнні за свае памылкі і няправільныя рашэнні, за ідэі, якія яны ўнушалі ўсяму грамадству і якія яны прынялі занадта позна, разбураючы жыццё пакаленняў. Як і ў Польшчы, перадвыбарчы ціск крыху знізіўся, а ў Беларусі ўвесь час узрастае. Прэзідэнцкія выбары, прызначаныя на 9 жніўня, напэўна, не будуць гладкімі і прыемнымі. Хутчэй варта чакаць сур'ёзных сацыяльных хваляванняў. Ва ўсякім разе, першыя крызісы, якія папярэднічалі палітычным зменам, ужо адбыліся. Людзі выходзяць са сваіх спаравых снарадаў: з хатніх і сямейных прытулкаў, з меркантыльнага маразму, з палітычнай абнегацыі і спантанна лучацца на вуліцы ў мірныя кантэстацыйна-сузіральніцкія групкі і даюць волю доўга здаўленым расчараваннем. Улады не глядзяць на гэта абыякава. Што гэта такое! Паводле маніторынгу беларускага праваабарончага цэнтра «Вясна», 360 чалавек былі арыштаваны толькі цягам чатырох дзён, з 18 па 21 чэрвеня. Усяго з траўня па чэрвень каля 700 чалавек пад часта недарэчнымі падставамі, былі затрыманыя — актывісты, палітыкі і ўдзельнікі мірных акцый. З 18 чэрвеня найбуйнейшы патэнцыяльны супернік Лукашэнкі ў барацьбе за прэзідэнцкае крэсла Віктар Бабарыка знаходзіцца пад вартай. Яго абвінавачваюць ва ўсіх злачынствах. «Пад клеткай» харызматычны інтэрнэттрыбун Сяргей Ціханоўскі. Яго абвінавачваюць у арганізацыі звычайных беспарадкаў альбо вулічных боек. З усяго вышэйсказанага відаць, што выбары — сур'ёзная справа. Для некаторых яны азначаюць столькі, каб было як было. Для іншых, каб было інакш — мабыць, лепш, можа, і горш, але каб не скончылася так, як было.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Прэзідэнцкі марафон

Нядзельны ранак 28 чэрвеня абазначаў урэшце пачатак каранавіруснага галасавання на чарговага прэзідэнта Польшчы. На свой выбарчы ўчастак выбраўся я з дачкою ўжо перад восьмай з надзеяй, што прагаласуем спраўна і хутка без стаяння ў чэргах. Калі потым цягам дня ў тэлебачанні глядзеў выстраеныя чэргі на гадзіну чакання, то з палёгкай уздыхаў, што ўсё ўжо за мною — і стаянне ў чэргах, і спакой у медыя звязаны з выбарчай цішынёй. Выбарчая цішыня многім здаецца анахранізмам, але я асабіста задаволены гэтым выбарчым запісам. Прынамсі ўсю суботу і нядзелю з радыё, тэлебачання і інтэрнэтрэсурсаў не ліўся атрутны, прапагандысцкі гул, які з усіх бакоў атакаваў нашы вушы і мазгі. У гэтым годзе ступень выбарчай агрэсіі прыкандыдацкіх медыя ўзнёсся на ўзаемавынішчэнне. Канфрантацыя і агрэсія мела пранікнуць як найшырэй у грамадства, каб мабілізаваць яго да апошняй хвіліны ў правільнасці свайго выбару. На маім выбарчым участку людзі плылі з усіх бакоў, то ў дачыненні да папярэдніх выбараў у сувязі з каранавірусам было зроблены некалькі ўваходаў і больш залаў для ўдзельнікаў выбарчага працэсу. Таму ўсё ў нас пайшло спраўна, а дэзінфекаваныя рукі пасля галасавання пахлі проста... самагонкай. Некалькі разоў з недавер'ем я іх нюхаў, але знаёмы мне самагонны пах проста біў па носе. Чаму, што і як з тым пахам атрымалася проста было для мяне неспадзяванкай. Людзі хацелі таксама прагаласаваць як найхутчэй, яшчэ па прычыне нестабільнага надвор'я. Так склалася, што апошнімі днямі ўвесь час непакоілі нас буры з праліўнымі дажджамі, так што выбаршчыкі хацелі скарыстаць у меру яшчэ з нармальнага надвор'я. Бо спёка і скокі ціску не адпускалі. Надвор'е дастроілася да той вышыні палітычнай гарачкі, якая мае месца цягам апошніх месяцаў. А галоўным разыгрываючым на польскай палітычнай сцэне аказаўся... кітайскі каранавірус, быццам самім кітайцам замала ўплываў на палітычнай і эканамічнай карце сусветных гонак. Тое, што мела здзейсніцца на майскіх выбарах дзякуючы палітыкам зацягнулася аж на канец чэрвеня. На працягу гэтага часу відавочным стала, што гэты раўнд змаганняў у сваю карысць узяла Грамадзянская кааліцыя. Пагражаючы каранавірусам і сенацкай большасцю абыграла ПіС, ПСЛ і Левіцу, падменьваючы Малгажату Кідаву-Блонскую на Рафала Тшаскоўскага і ізноў выходзячы ў лідары ў апазіцыйным пелетоне. Па сённяшні дзень ніхто мне пераканаўча не растлумачыў, чаму такія тузы палітыкі як Уладзіслаў Касіняк-Камыш ці Владзімеж Чажасты з Робертам Бедранем не захацелі „дабіць” Грамадзянскую платформу і ейную кандыдатку, каб узмацніць свае групоўкі. Ну і адступніцтва Права і справядлівасці ад тэрміну майскіх выбараў і роля віцэ-прэм'ера Тадэвуша Говіна здаюцца быць найбольшымі палітычнымі таямніцамі гэтай кампаніі. Аргумент, што карэспандэнцыйнае галасаванне пагражае здароўю нацыі ў канфрантацыі з пазнейшымі падзеямі і паўторным збіраннем подпісаў на Рафала Тшаскоўскага не вытрымлівае аніякай важнасці. Прытым трэба прыгадаць, што амаль увесь гандаль у перыяд каранціну перанёсся ў інтэрнэт і прыём кур'ерскіх пачак ужо нікому не перашкаджаў. З пазіцыі нашага, падляшскага, выбаршчыка ўсіх зацікавіў старт беластачаніна Шымана Галоўні як кандыдата грамадзянскіх, беспартыйных сіл. Ягоны добры вынік паказвае таксама, што палітычны, польскі „дуаполь” не можа быць вечным. З апрацаваных Цэнтральнай выбарчай камісіяй пратаколаў з 99,78% камісіяў вынікае, што цяперашні кіраўнік дзяржавы Анджэй Дуда набірае 43,67% падтрымкі, 8 412 183 галасоў. На другім месцы прадказальна апынаецца кандыдат Грамадзянскай кааліцыі Рафал Тшаскоўскі, які атрымлівае 30,34%, 5 845 164 галасоў. Гэтыя прэтэндэнты выходзяць у другі тур галасавання. Паводле апытанняў трэцяе месца займае Шыман Галоўня, які набірае 13,85%, 2 667 655 галасоў. Далей ідуць: Кшыштаф Босак — 6,75%,1 300 923 галасоў, Уладыслаў Касіняк-Камыш — 2,37%, 457 092 галасоў, Робэрт Бедрань — 2,21%, 425 734 галасоў, Станіслаў Жолтак — 0,23%, 45 092 галасоў, Марак Якубяк — 0,17%, 33 294 галасоў, Павал Танайна — 0,14%, 27 610 галасоў, Вальдэмар Віткоўскі — 0,14%, 26 877 галасоў, Міраслаў Пятроўскі — 0,11%, 20 944 галасоў. Высокая выбарчая яўка 64,4% даказала, што нягледзячы на каранавірус, людзі хочуць вырашаць пра будучыню сваёй краіны. Да сустрэчы 12 ліпеня пры выбарчых скрынях.

**Яўген ВАПА**

# Ці бяспечныя атамныя электрастанцыі?

Калі вясной 1986 года здарылася магутная аварыя на атамнай электрастанцыі каля Чарнобыля, такі спосаб прадукцыі электраэнергіі жыхары Беласточчыны сталі лічыць вельмі небяспечным. Тады хмара з моцным радыяцыйным забруджаннем перасоўвалася над нашым ваяводствам, непасрэдна пашкодзіла здароўю мясцовага насельніцтва. Радыяцыйнае забруджанне таксама ўпала на сельскагаспадарчую прадукцыю і ўвайшло глыбей у глебу. Самае вялікае радыяцыйнае забруджанне было тады на поўдні Беларусі і там з вялікай зоны было цалкам выселена насельніцтва. Зараз, калі ў ліпені гэтага года мае быць запушчаны першы энергаблок Беларускай атамнай электрастанцыі ў Астраўцы Гродзенскай вобласці, паявіліся апаскі ў самой Беларусі і суседніх краінах. Людзі пытаюць: ці БелАЭС будзе бяспечнай? У Польшчы прадаўжаецца дыскусія, ці будаваць атамную электрастанцыю ў якасці альтэрнатыўнай крыніцы электраэнергіі, паколькі ў перспектыве прадбачваецца абмежаванне дзейнасці электрастанцый, у якіх палівам для прадукцыі энергіі служыць вугаль.




**Чарнобыльская аварыя шакіравала свет**

Нядаўна ў Кіеве Архівам Службы бяспекі Украіны і Украінскім інстытутам нацыянальнай памяці былі апублікаваныя чарговыя дакументы «Чарнобыльскага архіва КДБ». Можна з іх даведацца, што ў час самой будовы Чарнобыльскай АЭС былі дапушчаны няправільнасці, а ўжо ў 1971-1981 гадах здарылася 29 аварый невялікага маштабу. Аднак 26 красавіка 1986 года здарылася магутная аварыя. Паслядоўнасцю эксперыментальнага выключэння чацвёртага энергаблока быў выбух воднай пары ў халадзільных сасудах блока. Знішчана была яго паверхня, а пасля адбыўся выбух вадароду, які знішчыў частковa чацвёрты энергаблок. Аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі спрычынілася да радыяцыйнага забруджання Украіны, Беларусі, Расіі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі, Аўстрыі, Германіі, Румыніі, Славеніі і Грэцыі. Аварыя замоўчвалася ў Савецкім Саюзе. Хаця Чарнобыль расположаны на тэрыторыі Украіны, то галоўная хмара радыяцыйнага забруджання перасунулася на тэрыторыю Беларускай ССР і закранула таксама Беласточчыну. Радыяцыя пашкодзіла здароўю мясцовага насельніцтва і забрудзіла глебу, а ў выніку — сельскагаспадарчую прадукцыю. Улады Польшчы таксама не папярэдзілі мясцовага насельніцтва перад небяспекай, не заклікалі сядзець дома і не адмянілі першамайскіх шэсцяў, у якіх тады ўдзельнічалі ўсе вучні. Пазней стала вядома пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС і пра адмоўныя яе паслядоўнасці. Ведалі мы, што раслінная прадукцыя, агародніна, бульба, збожжа, а нават малако былі забруджаны радыяцыяй. Абмяжоўваліся мы са спажываннем агародніны і фруктаў. Некаторыя абмяжоўвалі таксама спажыванне малака. Жыхары Беласточчыны змагаліся з хваробамі, выкліканымі радыяцыйным забруджаннем. Прычын узнікнення пухлін і іншых цывілізацыйных хвароб — многа. Аднак несумненна колькасць пацыентаў у эндакрыналагічных амбулаторыях у другой палове васьмідзясятых і дзевяностых гадах значна пабольшала. Комплексныя даследаванні ў гэтым плане праводзіліся і вядуцца ў Японіі і там даказана адмоўнае ўздзеянне радыяцыйнага забруджання на здароўе мясцовага насельніцтва.

Вельмі небяспечным быў пажар у красавіку гэтага года ў невялікай адлегласці ад месца, дзе 34 гады таму здарылася аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Пажар распаўсюдзіўся на навакольны лес і стварыў небяспеку знішчэння перахоўваных побач электрастанцыі небяспечных радыяцыйных адкідаў, выробленых яшчэ перад аварыяй у 1986 годзе. Адкіды ў выніку пажару маглі б быць выкінуты ў атмасферу і пераносіцца з ветрам па тэрыторыю іншых краін, як гэта было 34 гады таму.

**Ці будаваць атамную электрастанцыю ў Польшчы?**

У 2011 годзе ў час землетрасення ў Японіі здарылася аварыя на атамнай электрастанцыі Фукусіма № 1. Хаця эксперты мяркуюць, што ў час японскай аварыі радыяцыйнае забруджванне было прыблізна ў дзесяць разоў меншае ад чарнобыльскага, то аварыя ў Японіі спрычынілася да рашучай змены спосабаў прадукцыі электраэнергіі ў Нямеччыне. У Германіі быў прыняты новы план будовы шматлікіх ветравых і сонечных электрастанцый, а таксама гідраэлектрастанцый. Прадукцыя электраэнергіі з аднаўляльных крыніц не вядзе да забруджвання натуральнага асяроддзя і ацяплення клімату на нашай планеце. У Нямеччыне быў адначасна прыняты план спынення ў будучыні дзейнасці атамных электрастанцый. Адмова будаваць ядзерныя электрастанцыі зрабіла яшчэ больш гарачай дыскусію на тэму: ці атамныя электрастанцыі бяспечныя? Французы, так як і немцы, робяць вялікую стаўку на электраэнергію з аднаўляльных крыніц, але надалей хочуць карыстацца атамнымі электрастанцыямі.

У Польшчы надалей вядзецца дыскусія, ці будаваць атамную электрастанцыю, як альтэрнатыўны спосаб прадукцыі электраэнергіі, паколькі ў перспектыве чакае абмежаванне дзейнасці электрастанцый, у якіх палівам для прадукцыі энергіі з'яўляецца вугаль. З-за таго, што такія цеплавыя электрастанцыі моцна ўплываюць на ацяпленне клімату, Еўрасаюз рэкамендуе адыход ад прадукцыі электраэнергіі з выкарыстаннем вугалю. У будучыні вытворцы электраэнергіі з вугалю будуць плаціць Еўрасаюзу вялікія штрафы.

Меркавалася, што ў час апошняй сустрэчы прэзідэнта РП Анджэя Дуды з прэзідэнтам Злучаных Штатаў Амерыкі Дональдам Трампам можа быць падпісана дамова наконт куплі тэхналогіі і будовы ў Польшчы пад наглядам спецыялістаў з ЗША атамнай электрастанцыі. Магчыма, што былі толькі размовы наконт падпісання такой дамовы на ўзроўні экспертаў, паколькі ў Польшчы ўжо здаўна вядзецца падрыхтоўка да будовы атамнай электрастанцыі. Аднак аварыя на Чарнобыльскай АЭС такія намаганні спыніла на доўгі час. У выніковым дакуменце пасля размовы прэзідэнтаў Польшчы і ЗША напісана пра намер далейшага супрацоўніцтва абедзвюх дзяржаў у галіне энергетычнай бяспечнасці, маючы на ўвазе развіццё ў Польшчы галіны адказнай за прадукцыю атамнай энергіі. У нашай краіне ёсць прыхільнікі і праціўнікі будовы атамных электрастанцый, а згодна з ранейшым планам атамная электрастанцыя мела быць збудаваная ў Польшчы ў гэтым годзе. Цяпер прадугледжваецца, што атамная электрастанцыя, якой будова можа каштаваць нават каля 30 мільярдаў долараў, будавалася б у Польшчы ажно да 2033 года. Паяўляюцца пытанні, як бяспечнай была б такая атамная электрастанцыя і дзе яна мела б быць збудаваная? АЭС можа даць новыя месцы працы, але таксама выклікаць пратэсты мясцовага насельніцтва, як бывала ў мінулым, калі паяўляліся прапановы лакалізацыі атамнай электрастанцыі ў Польшчы.

**У ліпені мае быць запушчаны першы энергаблок БелАЭС**

Прадугледжваецца, што першы блок атамнай электрастанцыі ў Астраўцы Гродзенскай вобласці будзе запушчаны ўжо ў ліпені гэтага года. У першым энергаблоку БелАЭС закончаны будаўнічыя працы і адбываецца яго праверка, каб можна было выдаць ліцэнзію на фізічны пуск блока. БелАЭС будуецца беларускімі і расійскімі суполкамі пад наглядам і інжынерным кантролем расійскай кампаніі «Расатам». Дзейнасць атамнай электрастанцыі штодзень не забруджвае навакольнага асяроддзя і не спрычыняецца да змен клімату. Аднак у выпадку аварыі атамнай электрастанцыі паслядоўнасці могуць быць вельмі трагічнымі для людзей, жывёл і раслінnасці нават у большай адлегласці ад месца аварыі, як гэта здарылася ў 1986 годзе. У сувязі з планам запуску атамнай электрастанцыі ў Рэспубліцы Беларусь, у адлегласці 250 кіламетраў ад польска-беларускай мяжы, у Ліпску мае будавацца трэцяя станцыя маніторынгу радыяцыйнага забруджання ў нашым ваяводстве. Такія станцыі дзейнічаюць ужо ў Сувалках і Беластоку і маюць абавязак інфармаваць аб павышэнні ўзроўню радыяцыі, калі б такое адбылося. Атамная электрастанцыя ў Астраўцы збудаваная ў адлегласці каля сарака кіламетраў ад Вільні і літоўскія ўлады ад пачатку выступалі супраць яе будовы. Звярталі яны ўвагу на парушэнні ў час будовы Беларускай АЭС і перасцерагалі, што можа яна пагражаць бяспецы жыхароў суседніх краін. У Літве нават праводзяцца абучэнні, як трэба было б захоўвацца ў выпадку аварыі на атамнай электрастанцыі. У БелАЭС ужо прывезена ядзернае паліва для першага энергаблока. Хаця яго пуск запланаваны на ліпень, энергію першы энергаблок пачне пастаўляць у верасні або кастрычніку. Прадугледжваецца, што другі энергаблок БелАЭС пачне працаваць у 2021 годзе.

Тэкст **Аляксея МАРОЗА**

## Над Семяноўскім возерам

Настала цёплае лета і зараз у Старым Двары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета на беразе Семяноўскага возера адпачываюць турысты: хто пад палаткамі а хто ў спецыяльных даволі вялікіх прычэпах на колах. Найбольш іх у сонечныя і гарачыя дні. Тут весела. Вечарам і да позняй ночы на беразе вадаёма гараць кастры. Чуваць гоман і спевы.

У Старым Двары была вялікая памешчыцкая сядзіба. Будынкі з усім дабром спалілі лютыя казакі, якія служылі ў царскім войску і пасля вялікага пажару асталася — як напамін мінулага — толькі заўважальная ліпавая паркавая алея. Пра гэта расказаў мне тутэйшы жыхар, калі я наведаў гэтае месца ў 1966 годзе (тады я працаваў настаўнікам у Пачатковай школе ў Старым Ляўкове і быў маладым карэспандэнтам „Нівы").

Як добра памятаю, падвосень прыехаў я сюды на ўласным матацыкле SHL. Сустрэў пажылага мужчыну і мы разгаварыліся. Мой субяседнік многае ведаў пра памешчыцкі двор і яго жыхароў. Усё было спалена ўзброенымі казацкімі салдатамі, якія наведаліся сюды на конях. Гэта было пакаранне за дапамогу паўстанцам. Пан паспеў схавацца ад нашэсця ў кустоўі ды прыбярэжняй густой вадзяной раслінnасці ракі Нарва. Падчас вялікага пажару вада ў рэчцы была гарачая.

Мясцовы жыхар павёў мяне на месца, дзе некалі стаяла памешчыцкая вялікая драўляная стадола са збожжам. У ёй у глыбокіх засеках не згарэла ўсё зерне. Мы прайшлі па мяккім месцы пажарышча і боты нашы стряглі ў тоўстых пластах жытняга зерня. У гурбах попелу мы знайшлі, між іншым, вялікія замкі, жалезныя і мядзяныя ды з мосенжу цяжкія прыбоі, каменне. Вось чаго я быў, мабыць, апошнім яшчэ зараз жывучым сведкам. Гэта ўжо гісторыя Старога Двара.

У Нараўчанскай гміне можна добра адпачываць над Семяноўскім возерам. Ёсць тут пляж, спартыўныя пляцоўкі, пляцоўкі для дзіцячых гульняў, пляцоўкі пад вогнішчы ды прыгожы амфітэатр на фоне возера, які быццам плыве і плыве па возеры на крылатых парусах. Па возеры можна плаваць на байдарках і матаровых лодках, вадзяных роварах і пантонах. Можна ў ім купацца. Тут рай для ўсіх вудзільшчыкаў. Шмат рыбы малой і вялікай розных відаў. Можна пачуць легенды пра злоўленых тут у возеры велізарных сомаў, шчупакоў, лешчаў, амураў, язёў і жэрахаў (boleni).

Да месца масавага адпачынку ў Старым Двары вядзе цераз сасновы лес асфальтавая дарога. Пры дарозе адведзена шмат месца на стаянкі для аўтамашын. На другім беразе Семяноўскага вадасховішча пабудавалі высокую драўляную ды моцную вышку і доўгі драўляны памост. Яны таксама атракцыён для турыстаў. **(яц)**

## Найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы

Ад 16 чэрвеня да 15 ліпеня гэтага года ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета традыцыйна ўжо праводзіцца Гмінны конкурс „Найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы і агратурыстычныя кватэры ў Нараўчанскай гміне" у трох катэгорыях: „прыхатні кветкавы агародчык і панадворак", „сялянская сельскагаспадарчая сядзіба" ды „агратурыстычныя кватэры і пры іх панадворкі". Сёлета, як і ў папярэдні гады ў ім ахвотна ўдзельнічаюць жыхары Альхоўкі, Заблотчыны, Міклашэва, Міхнаўкі, Нараўкі, Новага Ляўкова, Плянты, Семяноўкі, Свінароў, Скупава, Старога Ляўкова і Тарнопаля.

Вясковыя сядзібы і агратурыстычныя кватэры, якія прыступілі ў гэтым годзе да конкурсу, ужо неўзабаве, бо ў ліпені, наведае спецыяльна створаная камісія. Пераможцы падчас гмінных дажынак атрымаюць дыпломы за ўдзел у конкурсе і грашовыя ўзнагароды войта. **(яц)**

# Прыходскае свята ў Орлі

Міхал МІНЦЭВІЧ

Орля з'яўляецца адным з важнейшых цэнтраў праваслаўнага рэлігійнага жыцця на Беласточчыне. Амаль ад трыццаці гадоў цікаўлюся гісторыяй свайго рэгіёна, дакументуючы здымкамі жыццё Арлянскага праваслаўнага прыхода — царкоўныя святы, візіты іерархаў, духавенства, дзейнасць царкоўнага хору, прыхаджан і гасцей. Сёння гэта соткі і тысячы здымкаў — праяўленых і захаваных адно ў негатывах — тадышняй царквы і вернікаў, многія з якіх адышлі ўжо з гэтага свету.

Знаходжу, фатаграфую і апісваю таксама „забытыя Богам і людзьмі" старыя могілкі, адзінокія крыжы. Ад дваццаці пяці гадоў мае матэрыялы па гэтай тэматы публікуе „Ніва". У рыхтаванай да друку чарговай маёй кніжцы „Orla. Historie prawdziwe cz. III" знойдзецца таксама раздзел „Z życia parafii prawosławnej w Orli, lata 1995-2016". Тадышні настаяцель прыхода а. мітрат Аляксандр Такарэўскі цаніў маю працу, высілак і быў такім выданнем зацікаўлены. Многія вернікі цікавяцца і зараз.

Хачу прыгадаць чытачам „Нівы" гісторыю арлянскай царквы ў скарачэнні і архіўныя фрагменты некаторых маіх артыкулаў аб прыходскім святе ў гонар св. Іаана Багаслова. Коратка паспаўлюся таксама да сёлетняга „Івана" ад 21 мая ў час пандэміі каранавіруса...



■ Радасны дзень Арлянскага прыхода. У серадзіне уладыка Георгій. На права настаяцель а. мітрат Аляксандр Такарэўскі, побач яго сын (пакойны) Юрый настаяцель з Бельска-Падляшскага

### „Юбілей арлянскага храма"

(„Ніва" ад 19.01.1997 года)

У 1997 годзе каштоўны помнік духовай і матэрыяльнай культуры — праваслаўная царква Архістраціга Міхаіла ў Орлі адзначае двухсотую гадавіну аднаўлення пасля пажару. Паводле мясцовай царкоўнай хронікі пабудова першай царквы ў Орлі звязана з асобай літоўскага падскарбія Богуша Багавіціновіча, уладальніка Орлі і Сямятыч. 2 лістапада 1529 года Богуш Багавіціновіч саставіў тастамент, у якім сваю душу даручыў у апеку м.інш. св. Іаану Багаслову і Архістраціґу — святым, якія да сённяшняга дня з'яўляюцца нябеснымі заступнікамі мясцовага прыхода. Святкаванні ў гонар св. Іаана Багаслова маюць характар прыхадскога свята і кожны год адзначаюцца 21 мая і 9 кастрычніка, а імя Архістраціга Міхаіла носіць мясцовая царква.

Знаўца рэгіянальнай гісторыі Ян Глінка ў час экскурсіі ў Орлю ў 1937 годзе выпісаў з мясцовай „Клірavай ведамасці" наступнае: „На месцы, дзе стаяла ўніяцкая царква, якая згарэла ў 1790 годзе або крыху пазней, у 1797 годзе на складчыны прыхаджан і дзякуючы намаганням тадышняга настаяцеля Рыгора Паеўскага збудавана была новая, цяпер існуючая драўляная царква. Будаўнічы матэрыял на царкву падаравала графіня Браніцкая. Пазней, у 1879 годзе да гэтай царквы дабудавалі рызніцу".

У 1979-1981 гадах, дзякуючы захадам настаяцеля а. протаіерэя Аляксандра Такарэўскага, быў праведзены капітальны рамонт Свята-Міхаілаўскага храма (будынак быў разабраны). У яго ходзе быў (крыху пабольшаны) узмоцнены фундамент, узведзены новыя сцены і дах. Высокія бетонныя калоны ў арлянскай царкве, у парадку ахвярапрынашэння, канструяваў і заліваў жыхар Орлі Уладэк Васілеўскі.

### „Юбілей арлянскай царквы"

(„Ніва" ад 18 мая 1997 года)

Праваслаўе прыйшло на польскія землі разам з місіяй святых Кірылы і Мяфодзія пад канец IX стагоддзя, яшчэ перад расколам хрысціянства на праваслаўны і лацінскі касцёлы. На Беласточчыну праваслаўе з'явілася разам з падпарадкаваннем зямель над Бугам і верхняй Нарвай кіеўскім князям, пры панаванні якіх прыйшло сюды рускае засяленне. Прыхадская структура Праваслаўнай царквы канчаткова ўфармавалася ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага ў XIV-XVI стагоддзях.

Першую царкву ў Орлі пабудаваў падскарбі літоўскі Міхал Богуш Багавіціновіч, уладальнік гэтай мясцовасці ў 1510-1558 гадах, прадстаўнік старога рускага роду з Вальні. Царква св. Сімяона Стоўпніка — драўляная на каменным фундаменце — стаяла ў цэнтры Орлі, пры ўездзе з боку Бельска (зараз вуліца Бельская насупраць спартыўнага школьнага „Арліка") і праўдападобна пратрывала на гэтым месцы да 1747 года. (...) Пляц, на якім калісьці стаяла першая арлянская царква — старое цэрквіска — ахоўваецца як помнік. На ім у 1989-1994 гадах, дзякуючы намаганням настаяцеля а. прот. Аляксандра Такарэўскага, была ўзведзена мураваная капліца. Урачыстасць пасвячэння капліцы ў гонар св. Сімяона Стоўпніка, якая адбылася 16 ліпеня 1995 года, узначаліў яго блажэнства Васілій — мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы.

Кожны год у першую нядзелю пасля Вялікадня на старое цэрквіска, да магіл салдат з перыяду Першай сусветнай вайны, прыходзіць хрэсны ход і правіцца паніхіда.

Пасля Берасцейскай уніі, калі многія апекуны цэркваў перайшлі на пратэстантызм, уніяцтва або каталіцызм, абаранянь інтарэсы цэркваў сталі царкоўныя брацтвы, але іх дзейнасць не змагла прадухіліць паступовага пераходу праваслаўных прыходаў ва ўніяцтва.

У Орлі ў 1770 годзе рэлігійнае жыццё засяроджвалася пры другой царкве, якая ў 1790 годзе згарэла, а ў 1797 быў пабудаваны новы храм, які існуе да сённяшняга дня.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Беласточчына, а ў тым ліку і Орля, апынулася пад Прусіяй. Новыя ўлады імкнуліся стварыць на гэтых землях незалежную структуру Праваслаўнай царквы, аднак пераход Беласточчыны ў 1807 годзе ў межы Расіі знішчыў гэтыя планы. У 1839 годзе рашэнне сабора ў Полацку прывяло ўніятаў да вяртання, не заўсёды дабравольнага, у Праваслаўную царкву. Арлянскія прыхаджане ўрачыстасць вяртання ў праваслаўе правялі пад наглядам казакоў у царкве ў Чыжах. Тадышні арлянскі настаяцель а. Макавельскі таксама прыняў праваслаўе.

На Беласточчыне ўзніклі новыя прыходы, аднавіліся старыя, пачало развівацца сакральнае будаўніцтва (...) У 1867-1870 гадах была пабудавана ў Орлі могілкавая царква свсв. Кірылы і Мяфодзія.

Многім прыходам цяжкі ўдар прынёс 1915 год. (...) Праваслаўныя свяшчэннікі пужалі і заклікалі вернікаў уцякаць перад немцамі. (...) У жніўні 1915 года разам з жыхарамі Орлі выехаў а. Пётр Краснікаў.

Да выбуху Першай сусветнай вайны і бежанства ў арлянскай царкве знаходзіліся тры каштоўныя іконы: св. Феадосій, св. Мікалая і копія вядомага абраза Кіева-Пячэрскай Божай Маці, а ў могілкавым храме свсв. Кірылы і Мяфодзія былі званы. У часе вайны царкву замянілі на збожжавы склад. Да 21 кастрычніка 1921 года ў Орлі не было настаяцеля.

Міжваенны перыяд у Орлі характарызаваўся палітычнай актыўнасцю яе праваслаўных жыхароў і яе дэструктыўным уздзеяннем на сферу рэлігійнай свядомасці.

Пасля Другой сусветнай вайны наступіў таксама даволі складаны перыяд у царкоўным жыцці: у 1944-1953 гадах змяніліся аж дзевяць настаяцеляў. Сталася гэта, у вялікай меры, дзякуючы прызначваным сюды для святарскай паслугі двум духоўным, якія давялі да шэрагу канфліктаў (адчаеныя прыхаджане звярталіся з просьбай інтэрвенцыі нават да самага прэзідэнта Берута).

З 8 жніўня 1962 года душпастырскую апеку над вернікамі Арлянскага прыхода нясе а. Аляксандр Такарэўскі, які ў 1971 годзе атрымаў званне протаіерэя. Людзі паважаюць яго за сумленнасць і добрае адміністраванне прыходам. З 15 жніўня 1996 года настаяцелю дапамагае вікарый а. прот. Анатоль Такаюк, які быў перанесены з Пярэмышльска-Навасончаўскай епархіі, з прыхода Стрэчання Гасподняга ў Марохаве ў Кросненскім ваяводстве, дзе цягам 20 гадоў быў настаяцелем. З 1983 года псаломшчыкам ёсць Дзмітры Мартыновіч.

### Епіскап Авель у Орлі

(„Ніва" ад 15.06.1997 г.)

Юбілей двухсотай гадавіны адбудовы пасля пажару папярэдзіла старанная падрыхтоўка да ўрачыстасці свята Іаана Багаслова. Прыход атрымаў новы пляц насупраць царквы (перададзены гмінай), які прыгожа абгарадзілі і добраўпарадкавалі. Перад храмам быў пакладзены новы тратуар, памалявалі таксама званіцу, плябанію ды агароджы вакол царквы і плябаніі.

Царкоўная ўрачыстасць адбылася 21 мая 1997 года, у дзень прыходскага свята Іаана Багаслова. Па бласлаўленні мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Васілія прыход наведаў епіскап Люблінскі і Холмскі Авель. Ля ўвахода на царкоўны пляц уладыку прывіталі школьнікі, якіх да ўрачыстасці падрыхтаваў вікарый а. прот. Анатоль Такаюк. Ва ўрачыстым прывітанні прымалі ўдзел настаўнікі, працаўнікі Гміннай управы, ГСу і шматлікія вернікі. Пры царкве епіскапа віталі царкоўны стараста Сяргей Кулік і гурток Брацтва праваслаўнай моладзі, а пры ўваходзе ў храм — настаяцель а. прот. Аляксандр Такарэўскі і сабранае духавенства.

Святую літургію ўзначаліў епіскап Авель у саслужэнні 32 святароў і 3 дыяканаў з суседніх прыходаў і духоўныя, якія выводзяцца з Арлянскага прыхода. У гэты дзень вернікі шчыльна запоўнілі храм і царкоўны пляц, а пахмурнае неба цудоўна праяснілася. Уладыка ўзнагародзіў Орданам Марыі Магдаліны І ступені а. прот. Аляксандра Такарэўскага, які сёлета адзначае 35-ю гадавіну святарства. Ордэн ІІ ступені быў прысвоены прыходскаму хору пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Мартыновіча. Сябры Прыходскай рады — Уладзімір Пасечнік (званар), Сяргей Клычкоў і Сяргей Кулік — атрымалі з рук уладыкі Ордэны ІІІ ступені.

Сёлетнія святкаванні ў гонар Іаана Багаслова ўпершыню ў гісторыі праходзілі ў цішыні. Гэтым разам ларкі з цацкамі і іншай драбязой размясціліся не насупраць царквы, але ўздоўж адпачынковага парку (гукі выстралаў з коркаў не былі так дакучлівымі). І так павінна быць заўсёды!

### У кожнага ёсць свой дзень

(„Ніва" ад 23.05.1999 г.)

28 красавіка 1999 года Орля адзначала своеасаблівае свята. У дзень святкавання 70-годдзя настаяцеля Арлянскага прыхода а. мітрата Аляксандра Такарэўскага прыход наведаў Яго блажэнства Сава — мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы.

„У кожнага з нас ёсць свой дзень, свой час, своя мінута, — сказаў мітрапаліт Сава. — Сёння свой дзень мае настаяцель гэтага прыхода а. Аляксандр Такарэўскі. Дзякуючы яму знаходзімся тут, каб у гэтым месцы даць доказ усяму таму, што Бог паклікаў нас для міру".

У гэты дзень нават надвор'е было незвычайнае — вясенні ранак з яркім сонцам нагадваў летнюю пару. Зялянелі дрэвы, з якіх ліліся радасныя галасы птушак. Прыцаркоўная аўтастаянка запоўнілася аўтамашынамі і трактарамі. Ля парку свае крамкі расставілі цукернікі. Моладзь у гэты дзень не мела заняткаў у школе.

У дзевяць гадзін раздаліся званы і хрэсны ход з удзелам святароў з суседніх прыходаў выйшаў сустрэць мітрапаліта Саву. Немалая Свята-Міхаілаўская царква не памясціла ўсіх прыхаджан і многія вернікі шчыльна запоўнілі пляц вакол храма. Пасля літургіі і хрэснага хода духавенства, дэлегацыі ад школы і вернікаў віншавалі шанаванага прыхаджанамі а. мітрата Аляксандра Такарэўскага, які палову свайго жыцця правёў менавіта ў Орлі. Мітрапаліт Сава ўзнагародзіў юбіляра другім крыжам з аздобамі, а жыхарка Орлі Зінаіда Дзянісюк уручыла букет з сямідзесяці чырвоных руж.

***

Як заўсёды, цэлае свята я ўвекавечыў на здымках. Выключна гэтым разам „вышчаўкаў" аж тры цэлыя новыя негатывы (больш за сто клетак) і свята дайшло да канца. Якой нечаканасцю было мне, калі цэлае духавенства, юбіляр і мітрапаліт Сава сталі на прыступкі і тратуар і чую, што клічуць мяне, каб зрабіў ім супольны здымак. А я ўжо выкарыстаў усе плёнкі, але, на шчасце, асталася адна адзіная апошняя клетка. Шчоўкнуў і кажу: „Дзякую". Адазваўся адразу мітрапаліт Сава: „Яшчэ раз!" А я адказваю: „Хопіць".

Гэта выклікала нейкае здзіўленне ды ўсмешкі. Усю сітуацыю запісала школьная тэлекамера і пасля расказвалі мне, што калі глядзелі запіс, то смяяліся. Ну, але здымак атрымаўся, публікавала яго „Ніва".

### Любіце адзін аднаго

(„Ніва" ад 11.06.2000 г.)

Сёлетняе 21 мая — двайное свята ў Арлянскім прыходзе. У гэты дзень прыхаджане адзначалі храмавое свята ў гонар св. Іаана Багаслова і 50-годдзе святарства а. мітрата Аляксандра Такарэўскага.

Зранку прыход наведаў епіскап Бельскі Грыгорый (...) Літургію ў саслужэнні навакольнага духавенства ўзначаліў епіскап Грыгорый. У гэты незвычайны дзень вернікі шчыльна запоўнілі царкву і пляц вакол яе. Пахмурнае неба праяснілася. Пасля хрэснага ходу ўладыка Грыгорый

чытайце ☞

звярнуўся са сходаў храма да вернікаў. У пропаведзі ўладыка спаслаўся на апостальскія словы аб неабходнасці любіць адзін аднаго. „Любіце сябе ўзаемна і будзе гэта знак, што любім мы Бога" — гаварыў іерарх. Уладыка павіншаваў а. Аляксандра Такарэўскага з 50-гадовым юбілеем служэння Царкве, а матушку Варвару за працу на карысць Царквы ўзнагародзіў ордэнам св. Марыі Магдаліны II ступені. (...) Юбіляр падзякаваў епіскапу, духавенству і вернікам за пажаданні і букеты кветак. Юбілей настаяцеля быў сапраўдным святам усяго Арлянскага прыхода.




**Душа — гэта частка Бога ў нас**
(„Ніва" ад 16.06.2002 г.)

Прыходскае свята Іаана Багаслова 21 мая 2002 года ў Орлі было асабліва ўрачыстае — арлянскую царкву наведаў Яго Блажэнства Сава, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы.

У палове дзясятай зазванілі званы і хрэсны ход з удзелам каля дваццаці святароў з суседніх прыходаў выйшаў з храма пад плябанію сустрэць мітрапаліта Саву. У зваротнай дарозе, у браме перад храмам мітрапаліта рыфмаваным прывітаннем сустрэў паэт-самавук Андрэй Грайко, пенсіянер з Тапчыкал. (...)

Ужо ў царкве настаяцель а. мітрат Аляксандр Такарэўскі сказаў:

— З вялікай радасцю сустракаем Ваша Блажэнства. Два тыдні назад мы ўрачыста адзначалі Святую Пасху, а вось сёння ў нас зноў свята — дзень памяці заступніка нашага прыхода, апостала і евангеліста Іаана Багаслова. Дзякуючы вам, Ваша Блажэнства, у нас сёння другая Пасха, другое свята.

Пасля літургіі і хрэснага ходу, пасля адспявання хорам „Многая лета", мітрапаліт Сава на ступеньках храма звярнуўся да вернікаў са словамі:

„Апостал, галоўным чынам, з'яўляецца апосталам любві, а любоў — гэта Бог. Там, дзе ёсць любоў, там Бог. Дзе няма любові, там няма Бога. Цяжка зразумець гэтую філасофію... Кожны паслядоўнік Збавіцеля становіцца носьбітам любві. І цяпер мы ўсе ставім сабе пытанне: Як мы, праваслаўныя людзі, здзяйсняем любоў у сваім жыцці, як ажыццяўляем любоў Ісусу Хрысту і сваёй царкве, дзе мы жывем.

І ў гэтым прыходзе ёсць людзі пакінутыя, адзінокія, патрабуючыя добрых учынкаў, добрага слова, добрых адносін, падтрымкі. Апостал Іаан Багаслоў, калі ўжо не мог пісаць, калі быў хілым стагадовым старэчам, гаварыў сваім вучням: „Любіце друг друга ўзаемна". Калі мы сёння з'яўляемся сведкамі трагедыі чалавецтва, трагедыі многіх народаў, трагедыі выжывання нават у Святой Зямлі, мы бачым, як тая Хрыстова любоў, якую павінны ажыццяўляць Яго вучні, не здзяйсняецца. Таму ёсць тое, што ёсць. Ёсць гора, ёсць пакуты, ёсць духовы крызіс.

Браты і сёстры! Калі мы збіраемся ў свае святы, у нядзелі, у прыходскія святы, як сёння, мы звяртаем асаблівую ўвагу на змест нашага хрысціянства ў нас, на душу. Душа — гэта частка Бога ў нас. Душа гэта Божае люстэрка ў нас. І вось гэты Божы дар, душа, дае нам другі дар, самы каштоўны ў нашым зямным вымярэнні — гэта дар жыцця. Калі душа адлучаецца, няма жыцця.

І свята ў нас — гэта як быць чалавекам. Калі мы сёння выйдзем з гэтага храма, з гэтага еўхарыстычнага сходу хаця з маленькай свядомасцю, што абазначае быць на зямлі чалавекам, і якім быць на зямлі чалавекам, тады наша свята мае сэнс, мае значэнне.

Праваслаўе няхай не баіцца спакусы сённяшніх дзён. Яно мае ў сваіх руках козыр для перамогі над тымі спакусамі. Неабходная нам мудрасць, энергія, стойкасць, мужнасць і жаданне быць актыўным, жывым у царкве і ў Ісусе Хрысце — тады сатана не мае да нас доступу. Усё гэта складана і цяжка, але людское жыццё гэта не што іншае, як пастаяннае змаганне.

Не бойся, малы статак — гаворыць слова Божае. У свеце ёсць многа розных вартасцей, якія гэты малы статак мацуюць, калі ў яго ёсць жаданне працаваць. І гэтага жадання ў змаганні за праваслаўную веру, за любоў у царкве, не паслабляйце — каб на гэтай стойкасці вучыліся нашы дзеці, наша моладзь. Каб выходзілі ў жыццё спелымі і з поўнай свядомасцю; каб, калі апынуцца ў неправаслаўным грамадстве, умелі дастойна сведчыць за сваю праваслаўную веру".

Сардэчную ўдзячнасць мітрапаліту Саву за пасвячэнне царквы і прыхода выказаў шанаваны прыхаджанамі а. мітрат Аляксандр Такарэўскі.

У нашых сэрцах астанецца ўся служба, усе вашы апавядальныя павучэнні і настаўленні. Мы будзем кожны дзень кіравацца імі і ўсё гэта паслужыць нам высока несці сцяг праваслаўнага хрысціяніна.

Міхайлаўскую арлянскую царкву, як заўсёды, наведала многа вернікаў, у тым ліку і з іншых прыходаў. Гэта напэўна заслуга душпастырскай апекі над вернікамі а. мітрата Аляксандра Такарэўскага. Тут людзі яго вельмі шануюць і паважаюць за яго сумленнасць, добрае кіраванне прыходам і — асабліва — за сардэчныя і ўважлівыя адносіны да грамадства.

**Любіце друг друга — гэта ўся пропаведзь**
(„Ніва" ад 10.11.2002 г.)

(...) 9 кастрычніка 2002 года вернікі шчыльна запоўнілі царкву. Пусцей было толькі навокал храма; мабыць першая зімніца паўплывала на тых, якія ўжо па прывычцы не ўваходзяць у храм, а стаяць на пляцы (...)

Святую літургію служыла каля дваццаці святароў і дыяканаў з суседніх прыходаў (...)

Доўгую пропаведзь на сходах храма сказаў настаяцель Кляшчэлеўскага прыхода а. Мікалай Келбашэўскі:

— (...) Апостал і евангеліст Іаан Багаслоў быў апосталам любві. (...) І яму было дадзена дайсці да Галгофы і бачыць пакуты на Крыжы Госпада нашага Ісуса Хрыста, за грахі чалавечыя. Калі ён паслабеў і не мог ужо многа гаварыць, ён толькі паўтараў вернікам: „Дзеці, любіце друг друга". Яму заўважалі: „Ты ўсё паўтараеш тыя самыя словы". А ён адказаў: „Гэта ўсё, гэта ўся пропаведзь".

На заканчэнне царкоўнай урачыстасці да прысутных звярнуўся настаяцель Арлянскага прыхода а. мітрат Аляксандр Такарэўскі:

— Я сардэчна дзякую духоўным, якія памяталі пра сённяшняе свята і прыехалі маліцца з нашымі прыхаджанамі. І за тую прыгожасць, якую вы стварылі, сардэчна вам дзякую. І сардэчна віншую са святам сваіх прыхаджан і ўсіх гасцей. Жадаю вам бадзёрасці духа, здароўя, дастатку і шчасця ў вашым жыцці, каб стойка трымаліся праваслаўнай веры і сваёй Праваслаўнай царквы.

Адухоўленыя і радасныя вернікі пакідалі царкоўны пляц. Радавалі вочы новыя прыходскія збудаванні: плябанія і гаспадарчыя будынкі. Усё гэта дзеецца дзякуючы настойлівасці і працавітасці а. протаіерэя Аляксандра Такарэўскага.

***

Не забуду я размовы з настаяцелем на старой плябаніі. Бацюшка быў ужо на пенсіі. Вельмі люблю я размаўляць з настаяцелем, а быў я тады і гмінным радным. Сказаў мне так: „Мне ўжо семдзесят гадоў. І што маю рабіць — праз акно выглядаць? Буду будаваць новую мураваную плябанію...". І пабудаваў. І гэта ж не сабе, бо пажыў у ёй з матушкай нямнога гадоў і мусіў з яе адысці. Калі пачыналася пабудова, то людзі нават здзіўляліся, але і захапляліся, бо на практыцы ніхто ў такім узросце не пачынае будаваць. (Хаця мой бацька Ян ва ўзросце 72 гадоў сам распачаў будову дома дачцэ і збудаваў.) Працавітасць настаяцеля была неардынарная.

**Нясіце малітву ў сваіх сэрцах**
(„Ніва" ад 15.06.2003 г.)

21 мая 2003 года Орля ўрачыста адзначала прыходскае свята апостала і евангеліста Іаана Багаслова, якое ў народзе называюць папросту Іванам. Рынак мястэчка запоўніўся святочна апранутымі людзьмі, якія, як заўсёды, праводзілі свята на свой лад: адны святкавалі пры ларках, другія пры піве ў краме (у 2013 годзе гаспода ГСу запар са зліквідаванымі крамамі спыніла сваю дзейнасць), іншыя ў парку, а найбольш набожныя маліліся ў царкве. Паветра што і руш пранізвалі гукі свісцёлак і трубак, раздаваліся выстралы дзіцячых пісталетаў ды ўзрывы петард. А ў Свята-Міхайлаўскай царкве адбываліся набажэнствы. Перад храмам кленчыла некалькіх жабракоў. Усе ў той дзень — хто як мог і хацеў — ушаноўвалі свята. (...)

Сёлета было сціпла, значыць было менш прыхаджан, гасцей і духавенства, але, як заўсёды, узнёсла і ўрачыста. Святую літургію служыла больш дзесяці святароў і дыяканаў з суседніх прыходаў. Пасля хрэснага ходу і праспявання „Многая лета" пропаведзь са ступенькаў храма сказаў бельскі настаяцель а. Лявонцій Тафілюк:

— Дарагія браты і сёстры! Сёння, у дзень перапалавення Пяцідзясятніцы, мы прынясім малітвы апосталу і евангелісту Іаану Багаслову. Няхай Гасподзь ахоўвае вас многія гады і няхай гэтае свята як найдаўжэй астаецца ў вашай памяці, у вашых сэрцах. Ніколі не лічыце, што пасля малітвы ў храме ці дома, малітва закончана. Мы молімся пастаянна і таму, калі вы адыдзеце адгэтуль, нясіце малітву ў сваіх сэрцах, каб заўсёды быць з Богам і каб Бог быў з вамі! (...)

**На Івана ў Орлі**
(„Ніва" ад 02.11.2008 г.)

(...) У чацвер, 9 кастрычніка 2008 года, ужо з раніцы рынак запоўніўся святочна апранутымі людзьмі. (...) Да свята Орля нарыхтавалася рупліва. Жыхары папрыбіралі тратуары перад сваімі панадворкамі. (Зараз, ад некалькіх гадоў, парадкаваннем займаецца работнік Гміннай управы.) Перад святам быў упарадкаваны цэнтр мястэчка, папраўлена эстэтыка старых габсаўскіх будынкаў. (...)

Святочны дзень прыцягвае ў Орлю навакольных людзей, аднак — як я прыкмеціў — на масавае святкаванне выходзіць штораз менш народу. Насельніцтва старэе, а ў царкву, у прынцыпе, ходзяць людзі старэйшыя, паслабленыя, якім баляць ногі і цяжка ім стаяць у час набажэнства. Відаць і яшчэ адно правіла: тыя, што не хадзілі ў царкву або наведвалі яе рэдка, калі пастарэюць, пачынаюць заўважаць, што жыццё прамінае і неўзабаве чакае іх сустрэча з Усемагутным. (...)

Пасля хрэснага ходу вернікаў і духавенства павіншаваў бельскі благачынны а. Лявонцій Тафілюк. Сказаў ён, м.інш.:

— Жадаю, каб мы ўсе заўсёды маглі смела стаць перад Госпадам і, мацаваныя Святым Духам, штодзённа выносіць свае малітвы. Каб і ў наступным годзе мы тут сустрэліся ў дзень святога евангеліста Іаана Багаслова з Божым блаславенствам. (...)

**Радасны дзень Арлянскага прыхода**
(„Ніва" ад 21.06.2009 г.)

Сёлета 21 мая 2009 года выпала двайное свята ў Арлянскім прыходзе: прыходскае свята ў гонар св. Іаана Багаслова і юбілей 80-годдзя настаяцеля Свята-Міхайлаўскай царквы а. мітрата Аляксандра Такарэўскага. Юбіляр нарадзіўся 28 красавіка 1929 года ў Корніцы Люблінскага ваяводства; у Орлі служыць з 1962 года. Прыхаджане з нецярплівасцю чакалі юбілею свайго настаяцеля, дапытваліся пра тэрмін. (...)

З раніцы царкву наведаў епіскап Сямятыцкі Георгій, які ўзначаліў Святую Літургію. (...) Пасля хрэснага шэсця ўладыка Георгій сказаў пропаведзь, у якой прыгадаў асобу Іаана Багаслова і ягоныя навукі — хто не мае ў сабе любві, таго нельга лічыць хрысціянінам, нават калі ён будзе многа часу праводзіць у царкве. Бо любоў, гэта дзверы, якія вядуць у рай, і зараз задача хрысціян заключаецца ў прапаведаванні любві, як гэта рабіў Іаан Багаслоў.

Уладыка Георгій ад імя мітрапаліта Савы перадаў юбіляру словы прызнання і падзякі. І са свайго боку епіскап Георгій даў высокую ацэнку юбіляру і павіншаваў яго. Перадаў ён таксама а. Такарэўскаму ікону ад уладыкі Савы.

Уладыка Георгій узнагародзіў асабліва заслужаных прыхаджан. Ордэнам св. Марыі Магдаліны III ступені была ўзнагароджана Зінаіда Дзенісюк, а пахвальнымі лістамі Галіна Банькоўская, Марыя Багацэвіч і Лідзія Цэтра. (...)

Юбілей а. Аляксандра Такарэўскага і прыходскае свята былі вельмі ўрачыстай падзеяй для ўсяго Арлянскага прыхода. Вернікі разыходзіліся дамоў адухоўленымі, радыя добрай кандыцыі свайго настаяцеля. Суправаджаў іх, аднак, і нейкі сум, задума над прамінаннем і нейкая трывога за будучыню Арлянскага прыхода і прадчуванне, што ў будучыні ніхто не дасягне раўні а. Аляксандру Такарэўскаму. Бо настаяцель ніколі нікога не пакрыўдзіў, нават словам, а на ягоным твары заўсёды ціхамірнасць, усмешка і сардэчнасць. Гэтак на практыцы святар нясе апостальскія словы: „Любіце сябе ўзаемна, а будзе гэта знакам, што любім Бога". (...)

***

А. мітрат Аляксандр Такарэўскі быў настаяцелем Арлянскага прыхода да 2017 года, святаром агулам праслужыў 66 гадоў. Нават калі ўжо пражываў у Бельску, то яшчэ праз нейкі час да саўдзелу ў набажэнстве ў Орлі давозіла яго самаходам ягоная дачка. Вялікі сум — у 2019 годзе памерла матушка Варвара.

***

**Kogo Pan fotografuje?!**

Ад сакавіка г.г. жыццё людзей у краіне апынулася ў цені каранавіруса. У шпіталі ў Ломжы памерла адна пажылая жанчына з Орлі, а ў гміне некалькі асоб праходзіла каранцін, іншыя былі пад наглядам санэпідэмстанцыі. Людзі хадзілі ў масачках, пра якія пастараліся самі, а таксама раздавалі Гмінны асяродак культуры і Гмінная ўправа.

Аб чым гаварылі жыхары Орлі, як спаглядалі на жыццё і будучыню? Многія казалі і былі перакананы, што пасля эпідэміі гра-

чытайце ☞ 10



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

## Заканчэнне школьнага 2019-2020 года ў Залуках



# Атрымлівайце асалоду ад свабоды, прыроды і сонца!

Пандэмія зрабіла сёлетні, 2019/2020 навучальны год асаблівым годам. Яго заканчэнне таксама было незвычайнае. Замест шматлюдных лінеек — для ўсіх вучняў сустрэчы з захаваннем адлегласці. Маскі на тварыках дзяцей, бацькі, якія чакаюць перад брамай школы. Але вучні гэты дзень перажывалі, бо ў канцы маглі сустрэцца з некаторымі сябрамі ці настаўнікамі. І ведаю, што шчыра пасумавалі па сваіх калегах па калідоры, за размовамі ў час перапынкаў ці нават невялікімі тэніснымі турнірамі, у час якіх можна было даказаць, хто з'яўляецца лепшым гульцом. У гэтай сітуацыі цяжка было трымаць дыстанцыю, але ўсе стараліся. Вядома, былі кветкі, а часам і сціплыя падарункі для выхавальнікаў. У Кацпра з III класа былі прыгожыя чырвоныя ружы для настаўнікаў. Ён прызнаўся, што вучыцца дома было дзіўна і спадзяецца на тое, што ў верасні вернецца ў сваю школу.

Вядома, што не ўсё было дрэнным у дыстанцыйным навучанні. Відаць, што вы, дарагія школьнікі, умела выкарыстоўваеце сучасныя тэхналогіі. Як давялі вучні з II „Б" класа Гайнаўскага беларускага ліцэя, не толькі ўмела, але таксама творча. Тэкст настаўніка беларускай мовы Янкі Карчэўскага вы змаглі памяняць у ролік „Рэп па-беларуску". Віншуем ініцыятывы! Тых, хто не бачыў, запрашаем сюды: https://www.facebook.com/258139024671964/videos/364474031181761/

У гэтым годзе за працу былі ўзнагароджаныя не толькі вучні, але і бацькі, якія былі вымушаны дапамагаць сваім дзецям на ўроках і ў дамашніх работах за апошнія месяцы дыстанцыйнага навучання. А ў школе ў Залуках бацькі нават атрымалі сертыфікат з чырвонай паласой і самымі шасцёркамі — за прыхільнасць, падтрымку, дапамогу, цярплівасць, дыдактыку прадметаў, умелае выкарыстанне камп'ютара і матывацыю да навучання. Настаўнікі таксама атрымалі віншаванні ад бацькоў за штодзённую падтрымку дзяцей на гэтай завілістай школьнай дарозе да ведаў.



Адзін этап гэтай дарогі завяршыўся для васьмікласнікаў. У пятніцу пабывалі ўжо апошні раз у сваім класе і школе. Было радасна і... сумна, але напэўна пакінулі школу са жменькай добрых пажаданняў, каб кожны змог падняцца як мага вышэй. Першая школа — гэта ваша галоўная педагагічная сіла.

Спадзяемся, што наступны навучальны год будзе новым падарожжам па займальным свеце чалавечай думкі. Жадаем вам добрых і творчых сустрэч з вашымі настаўнікамі, выхавальнікамі, а таксама выдатных і трывалых сяброўскіх зносін са школьнымі сябрамі. А пакуль атрымлівайце асалоду ад свабоды, прыроды і сонца, бо лета на вашым парозе. Жадаем вам моцнага здароўя, бяспечнага адпачынку і шмат добрых хвілін.

Тэкст і фота **Уршулі Шубзды**

## УВАГА КОНКУРС! № 27-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 12 ліпеня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Семсот кашуль,
семсот спаднічак — выйшла
на вуліцу, дзмухнуў вецер
а спіна ў яе голая.
К....**

(з народнага)

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 23-2020: нажніцы. У гэты раз не было правільных адказаў.**

# Міфы старажытных беларусаў

**САВА** – старажытныя беларусы лічылі яе дэманічнай істотай, паколькі птушка палюе ноччу і да таго ж палёт ціхі, непрыкметны, быццам сам дух пралятаў. Трывожылі таксама савіныя крыкі, якія напаміналі плач дзіцяці. Рабое жоўта-шэрае пер'е звязвалі з замагільным светам. Ва ўяўленнях нашых прашчураў птушка некалі была голай, яна стала пазычаць па пёрку ў розных птушак, каб неяк апрануцца, адтуль і пер'е такое ў яе пярэстае. З-за гэтай справы сава хавацца ўдзень, яна баіцца, што птушкі адбяруць у яе пазычанае «адзенне».

Калі сава з'яўлялася ў вёсцы, для вяскоўцаў гэта было дрэнным знакам, лічылі, што нехта неўзабаве памрэ. Саву адначасова лічылі мудрай птушкай. Яе сувязі з душамі продкаў былі крыніцай інфармацыі, таемных ведаў і тайнаў. У птушцы бачылі нейкае дзіва, бо яна з аднаго боку падобная на птушку і адначасова на чалавека. Людзі верылі, што совы пазычылі вочы ад катоў, якія таксама найлепш бачаць ноччу і таму адны і другія палююць на мышэй.

Але не заўсёды нашы продкі глядзелі на саву са страхам.

Крык савы «спавій» або «пі-і-ліп», верылі нашы продкі, прадказваў нараджэнне дзіцяці ў сям'і, а «ку-га, куга» — цяжарнасць жанчыны ці пароснасць свінні (калі сава абвяшчала гэта каля хлява).

Яшчэ паўстагоддзя назад савіныя чучалы вешалі ў многіх хатах на Падляшшы. Хутчэй чым дэкаратыўную, яны спаўнялі ахоўную ролю. Іх задачай было адганяць нячыстую сілу і злосных духаў, якія маглі б пашкодзіць сям'і. Савінае пер'е нельга было класці ў падушкі, бо яно скручвала курынае ці гусінае пер'е ў цвёрдыя скруткі і псавала падушку. Людзі верылі што ад такой падушкі можна захварэць і нават памерці.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**



Фота ГК

Міра ЛУКША

## Ко-ко-ко, кукарэку!

Знаеце пеўня Рыгора,
на падворку ён пан і ў каморы?
У каморы палічыць ячкі,
што трымае іх пані пад вечкам.

Якім правам забралі ў камору
тыя яйкі? — тут цэліць шпорай!
Гэта ж з яек мелі быць дзеткі!
Мамка выседзела б іх пад паветкай!

Квох-квох! — мама-квактуха плача.
Гэта ж мела ў жыцці быць іначай.
Не далі куранятак заседзець,
ні ў гняздзе, ні ў крапіве недзе.

Меркавала зрабіць гняздзейка
у шопцы ціхай квактуха Надзейка.
Там спакойна вывела б дзетак,
і з Рыгорам павяла б на палетак.

А тут яйкі, мае дзіцяняткі,
у рэшата ўсе забралі ад маткі!
У гаршку ў кіпені зварацъ!
На патэльні з маслам паджарацъ!

Рыгор са шпорай паднятаю ходзіць,
Сярод курак на падворку рэй водзіць.
Такі лёс курыны ад веку,
Такі лёс, ко-ко-ко, кукарэку!..



Фота ГК

## Кабачок — зялёнае смакоцце на спякотны дзень

Сёння чарговы рэцэпт з «Беларускай кухні» аўтарства Юры Качука.

У гэты раз прапануем вам просты, смачны салат з кабачкоў (cukinii) вельмі сугучны з аўрай гарачага лета Пятровага посту. Вядома, найлепшая страва з гародніцы вырашчанай на сваім агародзе. Хоць смак гэтага салаціка мне назаўсёды будзе асацыявацца з манастырскай кухняй у Жыровічах. Там, як вядома, уся агародніна даспявае на манастырскіх градках, дагледжаных чуллівымі рукамі пасяленцаў Святога месца.



А вось і славуты рэцэпт:

*Складнікі:*

1 невялікі кабачок,
10 зубкоў (тоненькіх) часнаку
алей,
соль,
мука,
зеляніна кропу і пятрушкі.

Кабачок нарэзаць тонкімі скрылькамі, пасаліць. Кожную скрыльку кабачка ўкачаць у муку, абсмажыць на алеі, астудзіць. Націсну часнаку, перамяшаць са скрылькамі кабачка. Страву пасыпаць свежай зелянінай. Тыя, што не любяць часнаку, могуць прыправіць кабачок чорным перцам або салодка-кіслым соўсам чылі.

Смачна есці!

*(гак)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 27-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 23-20:**

Стан, дабро, жаба, луста, цяпло, вясна, ігопкі, коля, крык. Смайлік, Ада, вол, на, цяля, бляск, крупнік, Осла, ява, ток.

Узнагароду, кніжку «Янотавы абяцанкі» Івана Галубовіча, выйграла **Аліўка Навумюк.** Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Osika / Potrawa | Słonina | | Wiersz | Atłas | | Maczałka | Plakietka | |
| | | | | | | Kasza | | | |
| | | Latko | | | | | | Kreda | |
| | Grążel biały | | | | | | | | |
| | Grusza | | Szosa / Oddech | | | | | | |
| Cud | | | | Sałatka | | | | | |
| | Szerokość | | | | | | | | |
| Kochanka | | | | | | | | | |


Фота Адама Паўлоўскага

Сымон РАМАНЧУК

# Чарадзеі (ч.5)

* * *

Яна пабегла дамоў, гэта блізка, ёй на Нарушэвіча. Вецер не сціхаў, але яна ўжо мела; ну і хай будзе плюха-шаруга, вецер няхай дзьме — абмокну — высахну!..

Пазваніла да пані Віялеты: — Будзеце ісці на выбары — да мяне пастукайце, і я пайду (не прызналася, што ўжо была!)… Прыйшлі… Дзяўчына паздаровалася ды кажа: — Я ўжо была (і непатрэбна! — хто ж «Анны Герман» не запамятаў!), я ў кампаніі; пані гэтай адной цяжка хадзіць!, дапамагаю, я каля дзвярэй пастаю!.. Паню Віёлю замуравала: «цяжка хадзіць»? Ей? Дзе? Куды? Сюды? Позірк яе быў дзівачны, яна як страла памчалася ў кабіну, пагубіла бюлетэні па пакоі! Вярнулася! Зноў упусціла!..

Арыядна спакойна магла разглядаць сваю «з'яву нябесную»! Яна сабе гаварыла: — Хлопча-малойча, да цябе, пэўна, спаўзаецца ўвесь бабскі лодзінскі мурашнік!.. ТЫ толькі не спяшайся, ты праз сіта нас, бабаў-баабабаў, прапускай, нашу гаведзьмухаўню-плойму, што на «мёд» твой злятаецца дзень кожны хмарай чорнай! Паўзе! Лезе!.. Валачэцца!..

— Бо хто захоча з нашага бабінца да цябе дакрануцца? Вось і я таксама, га?.. Каб ты мела ў хвіліну гэту ведаў — што было б?; вачамі сваімі я цябе ўжо абсалютна, у думках, «да гала» раздзела! Чуеш!?. Камільку?!. Ты маё золатка!!! Любуюся я, у думках, тваімі рукамі, нагамі (мармуровыя яны, як «вытачаныя», гэткія — цёплыя, цёплыя!), грудзі ў цябе — смуглявыя, як і ўвесь ты, валасатыя, але, думаю, гэтак — далікатненька-лёгенька-міленька!, прытуліцца б да іх цяпер, на хвіліначку, ой! Плечы твае якія цудоўныя! Абдымаю цябе, мілую, ай чаму толькі ў думках?!. Ты ўсюды прыгожы! Цёплы. Цёплы! Мяккі! Мяккі! Ядвабны-шоўкавы. Ашаленне адно!!!

— Ах, хлопча-хлопчыку! Кучаравашкі вы мае! Хто будзе твая каралева, што цябе ў сапраўднасці цэлага пабачыць?!. Каб хоць табе якая разумная папалася, каб цябе цаніць умела, хацела! Камілёк? А можа я дзе на што прыдалася б? Возьмеш? ТЫ папробуй! Ведаеш — я зоўсім-зоўсім, ага! Часам дурачуся — як усякая бабёнка — але я, кусок добры. Ну яе справа! Такая я, такой мяне выхавалі, ведаеш — я не зоўсім сённяшняя — я «хатняя», дом люблю, спяваць люблю, кнігі, фільмы і музыку!.. Я ў царкве спяваю, табе, спадзяюся, не перашкодзіць маё Праваслаўе, ты ж як архангел выглядаеш?.. Я не буду цябе пытаць пра тваіх дзяўчат, колькі ў іх цябе — ёсць, было! Карміць цябе буду, я добра вару, гэта ад мамы… Кахання ты мяне навучыш! — ведаеш — я заўсім незнаёмая ў гэтым. Ды і ты мне гэткім кахаешся-выглядаеш, хоць ты прыгажун прыгажуністы!.. Ну, тады будзем разам усяго такога вучыцца, Камілёк!!! Ведаеш, я ўжо цяпер нікому НЕ аддам! О, НЕ! Мой ты! Шкада ж цябе абы-каму ўручыць-спасылаць!

— Вы ж, хлопцы-мужчыны — як краты зямныя-сляпэцкія! Дурулі мілыя, наіўныя!.. Ляціце на нашы грудзі-ногі-вочы, а што ў нашых мазгаўніцах бабскіх вы ж і нейкаеце!.. Вам бліскаціць гэта «палітура» штучная, бо малёваная, ашуканчая!.. Вам бы нас — пад ручку, за ручку! Вам жа паказаць кусочаккраюшок цыцкі! Паказаць каленца, загаліць сукенку — вы даткнуліся і атарапелі. Ужо слімачыцеся, слініцеся!.. адкуль гэта знаю, калі я яшчэ «зялёнка»? А гэта наш прыпісаны бабам увесь «арсенал» баявы, прыродны, Камілёк, як з вамі, «сілачамі» за зубы брацца!! Чуеш, чорненькі? Шкада бо, ей-бо! цябе для якоесь проставалосай дурніцы, бабіцы-глупіцы, гарымы нейкай памазанай, гібона індакітайскага! Што фуру шмінкі-памады ўсялякай на сябе наклаў, наклеіў, пудрай кілаграмавай прысыпаў, якую нават "гэдэн шэндэр" з кіпяткам за гадзіну не змые, не спаласкае, не ачысціць!!!

— Пані Медыцына, а можна, каб вы мне руку паглядзелі? І як найхутчэй, вось мой тэлефон, бо цяпер тут — няма як, пры камісіі, пры людзях, праца мая тут сёння!.. Пані Арыядна, бо вы — Арыядна, я запамятаў. Можна мне да вас на доктарскі прыём, на «перавязку»? Чакаю!

Дзяўчына слупам солі стала!..

Суседка Віёля выйшла з кабіны (што яна там столькі чытала?), укінула спіскі ў урну, накінулася на Арыядну: — Што гэта за блазенада? «Пані гэтай», мне, значыць, «трудна хадзіць»? Што ты пляла? Мне — хадзіць?!.

— Пані Віёля, вы гляньце на гэтага, у камісіі, Мэля Гібсана ці Рычарда Гіра, на чарнавіка — Дзі Капрыё!..

— Ну і што? Гэтага артыста? Я ж яго амаль з маленства ведаю. Гэта ж брат-блізнюк нашага Юрка-хлебніка! Няўжо не пазнала, не ўцяміла? Ён — піяніст у нашай філармоніі, на Нарутовіча!

— Суседачка, а-а, а я ўсё варажу-думаю, чаму мне той твар такі знаёмы! Ну так, я ж і з Іалантай нашай была пазаўчора ў вас «на хлябах»! Там тады той другі сваю красу сеяў, ну — капка ў капку, ложка ў ложку! Я тут стаю, прыпамінаю, цэлюся-пападаю: дзе я і адкуль яго знаю — хоць і не бачыла, выходзіць! А — выходзіць, што спатыкала! Брацыка, значыцца. Блізнюка! Цудоўна!!!

Пра сваё «ўстанаўленне» з Камілем яна суседцы не сказала. Каб яшчэ ўракла, усё паплёнтала, нават не хоцячы?!.

* * *

Арыядна пазваніла. Праз дзень. Мучылася ўвесь гэты час, але каб не падумаў, што дзеўка — без уздзержкі — як пчала на мёд ляціць!.. Каміль уцешыўся — гэта было чутна-відно ў яго голасе. Запрасіў на канцэрт — святкаванне — успамін 100-годдзя першай сусветнай вайны. Каталіцкі сабор, вячэрня, архіерэі, народ… Малітвы гаспадароў, праваслаўнага архіепіскапа і пратэстанцкага… Свечы, свечы, свечы, кадзіла, «Вечная Память»!

У 1914 годзе, наўкругі Лодзі, ішлі велічныя бітвы; тут і цяпер — дзясяткі могілак, дзе ляжыць болей двухсот тысяч нямецкіх і рускіх воінаў; пагібшага насельніцтва польскага ніхто добра і не палічыў! Гэта была найбольшая бітва тых часоў на польскай зямлі!.. У гэтых дзвюх арміях былі салдаты з розных краёў сярэдняй Еўропы; з польскіх краёў — на абодвух баках: Германіі і Расіі… Такі кошт плаціла чалавецтва за палітыку! А на поўдні гарэла польская частка Аўстрыі і іншыя яе тэрыторыі! І нічога НЕ навучыліся, у час другой сусветнай бойні, шчэй «паправілася», «удасканалілася»!

А канцэрт быў у пратэстанцкім саборы, што на Пятркоўскай… Араторыя Пэндэрэцкага „Credo" — «Верую»… Магутны гэта твор! Аркестр, два хары, салісты, в-е-л-і-ч! Добрая памяць пра тых, што тысячамі леглі тут (косці іх і сёння яшчэ знаходзяць!), то і «не в землю нашу полеги когда-то, а превратились в белых журавлей», як сказаў Расул Гамзатаў, праўда — пра другую сусветную, але кроў — тая лілася і ў першую — ракой цэлай і з другой тут, наўкругі, хлопцаў савецкіх ляжыць нямала!

* * *

Спатканне Арыядны і Каміля было радасным. Ён доўга ў той вечар расказваў ёй пра музыку, пра канцэрты, творчасць кампазітара. Павязку з рукі ён ужо зняў; Каміль, аказваецца, ляўша, кроячы хлеб левай — параніў правую руку, трохі. Да вяселля загаіцца! — сказаў хлопец. — Чыёга? — папыталася Арыядна. — Ну, майго, калі якаясь пойдзе за мяне, музыканта, мяне ж трэба будзе дзяліць з заламі, канцэртамі, кампазітарамі, паездкамі… Ты — ведаеш мо такую «падзельную» дзяўчыну? Доктар ты мой? Агледзь ты маю руку, візіт так візіт! І ў вочы мне заглянь — што там за паненка ў іх стаіць? Ты знаеш такую? Яна табе знаёма? Маё сэрца кажа — яе завуць доктар Бельская, Арыядна! Спытайся ў яе — яна згодная на маю музыку?..

Яны ў той вечар доўга гаварылі пра Рахманінава; Каміль гатовіў другі фартэпіянны канцэрт, каб праз месяц-два іграць яго ў філармоніі на Нарутовіча. Арыядна ўспаміналa пятую сімфонію Бетховена, дзе чалавечы лёс, на яе пачатку, праз аркестр стукае ў душу слухача: ту-ту-ту-ту-у-у-у ту-ту-ту-ту-у!.. Лёс! Які сёння яшчэ мацней пастукаў да яе душы, завалодаў яе сэрцам!..

* * *

Філармонія трашчала ад грохату апладысментаў!.. Каміль іграў Рахманінава, дзе як жа цудоўна ўмела перадаў гэта малады піяніст! — адзываецца супольнасць, сугучнасць, сакавітасць гукаў і красачнасць, рамантычнасць гармоніі, лірыкі, паэтычна-баладнай нарацыі шырокай рускай мелодыкі! Элегія, лірызм, захапленне тэхнічнымі красачнымі магчымасцямі фартэпіяна і аркестра!.. Тут і скрыпка, якая выцішае дынаміку першых акордаў; за ёю пасняшае і пявучы саліст з маршам усяго аркестра; тут, праз хвіліну, адазвецца-заспявае рог і пойдуць-заспяшаюцца смычковыя інструменты ў свой танец калыхання, віру, вібрацыі tremolo!.. Здавалася — гэта не Каміль (такі ж, як і сам кампазітар, высокі ды хударлявы) зачараваў усю залу, а сам Сяргей Рахманінаў завітаў у гэты зімовы вечар на лодзінскую вуліцу Нарутовіча, у філармонію, якая ў гэтым горадзе — побач з гарадскім цудам архітэктуры, праваслаўным саборам святога Аляксандра Неўскага, дзе там сола заўсёды захапляе ўсіх, кожны раз, Арыядна!.. Два гэтыя чалавекі: Каміль і Арыядна — спяваюць зямную песнь Госпадзеві!.. Няўжо гэта выпадковасць, што яны зышліся-спаткаліся, гэтыя два людскія «аркестры»? Чалавечай паэзіі?!....

Паэтэса Ірэна Конці, італьянка, як бы для гэтай музычнай пары, сказала: «Дык што такое паэзія? — пытаецца дзяўчына, сягаючы вачыма зорак у ноч, густую ад шэпту, перад самым парогам спаўнення. — Дык паэзія гэта час, які надыдзе… Яна прамінула, ёсць, прыйдзе. Надыдзе, ёсць і праміне. Ёсць усюды, і там… дзе яе, нібыта, і няма» — - -

* * *

Арыядна закаханымі вачыма бачыла і чула толькі Каміля!.. Ён быў для яе цэлым аркестрам, цэлай паэзіяй! Падумаць, што быў час, калі яна яго не ведала! А ён, як бы нават спалоханы-ашаломлены гудзеннем публікі — стаяў маўклівы, усё яшчэ ў бляску нядаўняй аркестравай коды. Віншаванні, віншаванні, пажаданні!.. Пытанне: калі ляціць у Лондан, «на Чайкоўскага»?!.

* * *

Успаміналася дзяцінства… Ён расказваў аб гэтым Арыядне. Пачатковая музычная школа… Малюсенькага Камілька ўсе называюць Моцарцікам!..

А раней было вось як… Было яму тады тры-чатыры годзікі, усяго…. Ішлі яны па Пятркоўскай, Пятрыне — як увесь час кажуць ладзяне… Каля музычнага салона… Камілёк глянуў у акно, паказаў пальчыкам, пабег! Бацькі за ім, з брацікам Юрко. Камусь — як сам ён сябе называў — толькі крыкнуў: «Туды»! Ён падбег да піяніна і… пайшлі яго мацюпенечкія пальчыкі на інструменце! Ён іграў! Нешта сваё ці чужое, якоесь! Іграў, нявучаны! У цудоўным танцавальным рытме!!! Збегліся прадаўцы, аслупянелі бацькі і стаяўшыя ў салоне людзі. Малеча іграў!

Усе, наперабой, пыталіся: у якім ён класе?! Бацькі заплакалі: — Яму ўсяго тры з палавай! Як і гэтаму, гэта блізнюкі. Ён першы раз гэтак!

А хлопчык усміхнуўся, шырока-шырока: — Мама, тата, Юрко, ён іграе! Машыны гэта! Сама іграе, паслухайце, я толькі пальцамі тыцкаю!!!

… Мама — купіш яе?.. Тата, дасі грошыкаў? І я таксама маю, у свінцы-скарбонцы, там — дзесяць злотых, мо больш… Хопіць, га? Тацік?.. — Хопіць, сыночку, хопіць! Мы купім! Мы знойдзем яшчэ… — Але гэту ігралку, Мамусь! — Пан затрымае, Камусь, папросім, грошыкі толькі збярэм, прынясем… Праўда, паночку?

Бацькі ўціралі слёзы!.. Усе паўкругі ківалі галовамі… Дзе ж такое хто бачыў, калі?!. Камусь смяяўся, радасна… пляскаў ручкамі!!!

* * *

Праз школу ён прайшоў як ураган моцартаўскіх-скрабінскіх-рахманінаўскіх-шапэнаўскіх эцюдаў!.. — Мы НЕ маем яму ўпражненняў-цвічэнняў! Канцэрты яму іграць трэба! — сказалі настаўнікі… Кансерваторыя-акадэмія — толькі дух забіла ад такога таленту! Ужо там ён запісаў абодва шапэнаўскія канцэрты!.. Пра Камуся пачала ўжо пытаць Еўропа!.. Варшава клікала яго раз за разам… Ён сардэчна, аднойчы, расцалаваў у сталіцы Рафала Блехача, цешыўся з поспехаў свайго музычнага калегі, з малога Накла з-пад Быдгашчы, які таксама ўжо заваяваў свет!..

(працяг будзе)

# Адрыян Зандбэрг:
## — Хочам пачуць адказы на нашы пытанні

Сітуацыя вакол планаў здабычы торфу ў даліне ракі Нарва на Падляшшы складаная. Супраць гэтых планаў выступаюць мясцовыя жыхары. 24 чэрвеня падляшскі актыў партыі „Разам” супольна з дэпутатам Сейма Адрыянам Зандбэргам накіравалі ва Управу гміны Чыжы на імя войта Ежы Васілюка запыт у гэтай справе. Як сказаў Зандбэрг, ён прыехаў адмыслова ў справе сумніўнай інвестыцыі, якую прасоўваюць улады гміны, не зважаючы на пратэсты людзей:

*— Атрымалі мы шмат сігналаў з гэтай мясцовасці. Не маглі дачакацца адказу на гэтую рэальную небяспеку. Маем вельмі моцныя аргументы супраць таго, каб тут распачаць здабычу торфу. Мы хочам на тыя пытанні атрымаць адказы, якіх ніяк не дачакаліся. І пан войт атрымаў дэпутацкі запыт, на які павінен адказаць. Цягам чатырнаццаці дзён войт гміны Чыжы абавязаны даць адказ на пытанні дэпутата ў справе планаванай здабычы торфу ў даліне Нарвы.*

Прыгадаем, што здабыча торфу плануецца на абшары 170 гектараў цягам трыццаці гадоў. Прадпрыемства, якое мае займацца здабычай, ужо ўзяло ў арэнду дзясяткі гектараў зямлі.

**Тэкст і фота Валянціна Лаеўская**
радыё Рацыя







Adrian Zandberg
Poseł na Sejm Rzeczypospolitej IX kadencji

Warszawa, dnia 24 czerwca 2020 r.

Jerzy Wasiluk
Urząd Gminy Czyże
Czyże 90
17-207 Czyże

Szanowny Panie Wójcie,

Od kilku tygodni zgłaszają się do mnie społecznicy i rolnicy, zaniepokojeni planami powstania kopalni torfu nad rzeką Narew w okolicy wsi Gorodczyno, Grodzisko, Lachy i Klejniki. Planowana zmiana Studium uwarunkowań i kierunków zagospodarowania przestrzennego gminy Czyże zakłada zmianę funkcji terenów rolniczych na tereny prowadzenia działalności wydobywczej i produkcyjnej.

Z informacji, które do mnie dotarły, wyłania się niewesoły obraz stanu dialogu społecznego w Gminie, związanego z planowaną inwestycją. Według tych informacji 18.06.2020 władze nie stawiły się na konsultacjach, by porozmawiać z lokalną rolnikami, którzy w inwestycji widzą zagrożenie ekologiczne. To właśnie ta grupa obawia się, że padnie ofiarą planowanej inwestycji.

Fakt, że w bliskim sąsiedztwie terenu planowanej inwestycji znajduje się obszar objęty dyrektywą siedliskową i ptasią - Natura 2000, jest z pewnością dumą władz i mieszkańców Gminy. Tymczasem planowana kopalnia może zakłócić w ten obszar poprzez ograniczenie potencjału naturalnej retencji krajobrazowej. W dobie zmian klimatycznych, suszy i problemów hydrologicznych, takie miejsca powinny być objęte szczególną ochroną. O ochronie tego typu terenów mówią także dokumenty gminy Czyże, w tym Program Ochrony Środowiska Gminy Czyże uchwalony na początku 2019 r.

Na podstawie art. 19 ust. 1 ustawy o wykonywaniu mandatu posła i senatora z 9 maja 1996 (Dz.U. 2018 poz. 1799) zwracam się z prośbą o udzielenie informacji:

1. Na jakiej podstawie zaproponował Pan radzie gminy podjęcie decyzji o przystąpienia do zmiany Studium?
2. Jakie informacje dotyczące korzyści dla gminy otrzymał Pan od firmy WOKAS oraz jakie informacje przedstawił Pan radzie gminy proponując zmianę Studium?
3. Czy przedstawił Pan radnym koszty i straty jakie gmina poniesie w związku ze zmianą terenów rolniczych na tereny eksploatacji torfu?
4. Co gmina Czyże zaproponuje właścicielom działek bezpośrednio graniczących z terenem planowanej działalności wydobywczej i właścicielom działek położonych na tym terenie, rolnikom, którzy nie chcą wydzierżawić swojej własności firmie Wokas?
5. Z lektury protokołu z posiedzenia rady gminy w dniu 28 maja 2019 r. wynika, że na tym samym posiedzeniu, na którym rada podjęła decyzję o przystąpieniu do zmiany Studium, w kolejnym punkcie porządku obrad, poinformował Pan radę o tym, że wyłonił już wykonawcę projektu zmiany Studium. Cz poszukiwanie wykonawcy rozpoczął Pan przed podjęciem przez radę decyzji o przystąpieniu do zmiany Studium? Jeśli tak było, to na jakiej podstawie podjął Pan to działanie: na podstawie jakiego dokumentu, czyjej decyzji? Dlaczego nie czekał Pan na opinię i decyzję rady?
6. W procesie przygotowania projektu zmiany Studium gmina jest zobowiązana poinformować o swoich planach gminy sąsiednie. Dlaczego o bieżącym projekcie zmiany Studium nie poinformował Pan sąsiedniej gminy Bielsk Podlaski, po drogach której będą kursować pojazdy firmy Wokas jeżeli dojdzie do otwarcie kopalni torfu oraz gminy Narew, w obrębie której znajdują się tereny narażone na skutki planowanej inwestycji?
7. Czy o planach poinformowano właścicieli działek na terenie objętym zmianą Studium oraz właścicieli działek bezpośrednio sąsiadujących z nim?
8. Planowana zmiana Studium uwarunkowań i kierunków zagospodarowania przestrzennego gminy Czyże zakłada zmianę funkcji terenów rolniczych na tereny prowadzenia działalności wydobywczej i produkcyjnej. W jaki sposób zostały przeanalizowane interesy publiczne i prywatne? Proszę o przedstawienie szczegółów tej analizy.
9. W jaki sposób i kiedy analizowano zgłaszane uwagi?
10. Czy przeprowadzono analizy ekonomiczne, środowiskowe i społeczne skutków inwestycji? Prosze o ich udostępnienie.

Zwracam się do Pana z apelem o przystąpienie do rozmów z lokalną społecznością, wysłuchania ich stanowiska i zmierzenia się z argumentami przeciwko budowie kopalni, które zdają się opierać na rzetelnych podstawach naukowych.

Proszę o przesłanie odpowiedzi na adres mailowy: adrian.zandberg@sejm.pl w ciągu czternastu dni od wpłynięcia pisma, zgodnie z art. 20 ust. 2 ustawy z dnia 9 maja 1996 o wykonywaniu mandatu posła i senatora (Dz. U. 1996 Nr 73 poz. 350 z późn. zm.).

Z poważaniem

*Adrian Zandberg*



5 ☞ працяг

## Свята ў Орлі

мадзяне зменяцца ў лепшым, спагадлівым сабе напрамку, што перад абліччам эпідэміі ўсе роўныя — і багатыя, і бедныя... Але, на жаль, тыя што так думалі неўзабаве пераканаліся, што людзі лепшымі не стануць.

У красавіку арляне гаварылі, што сёлета прыходскае свята Івана не адбудзецца ў поўным фармаце. У храмах было дазволена ўдзельнічаць у набажэнстве толькі пяці асобам. Але ўжо ў палове мая, калі я апытваў людзей, некаторыя казалі, што Івана адбудзецца, што будуць ларкі і г.д. Я рашыў, нягледзячы на эпідэмію, пайсці ў той дзень у царкву — з'яўляюся прыхаджанінам і, перад усім, як рэгіяналіст запісваю ад трыццаці гадоў жыццё Арлянскага прыхода, а каранавірус гэта асаблівая гісторыя. (Апошні мой артыкул на гэты конт быў у „Ніве" ад 04.11.2018 года)

Як інфармавалі камунікаты па тэлебачанні, на дзень 21 мая быў пашыраны ліміт верных у храмах — адна асоба на 10 квадратных метраў; надалей у сіле закрыванне вуснаў і носа ў публічных месцах. Надалей жылі мы ў пандэміі, у краіне ўзнікалі штораз новыя ачагі. Спецыялісты прыгадвалі: пакуль няма вакцыны, наша здароўе і жыццё залежаць ад кожнага з нас.

Цікавіла мяне прыходскае свята, а таксама як да новай сітуацыі паставіліся прыхаджане. У пачатку арлянскага рынку сустрэў я знаёмага з Міклашоў, быў у масачцы; сказаў мне:

— Вяртаюся з царквы, там мне сказалі зняць маску, то я забраўся і еду дадому.



Па Паркавай вуліцы, каля царкоўнай стаянкі, стаяла многа ларкоў з цацкамі, а са стараны Кляшчэлеўскай вуліцы два ларкі з ласункамі, аднак зацікаўлення амаль не было. Каля ларкоў спаткаў я знаёмага пенсіянера з Крывятыч, які купляў ласункі. Вітаюся, а ён, без масачкі, працягвае мне руку на прывітанне. Я кажу, што яшчэ так нельга вітацца, а ён:

— Так? А ў царкве казалі, што няма віруса.

На царкоўным пляцы перад прыступкамі ў храм стаяла некалькі маладых асоб у масачках; яны слухалі набажэнства з дынамікаў. На царкоўных дзвярах была картка фармату А-4 з інфармацыяй: „ВАЖНА! Інфармацыя аб актуальнай дзейнасці прыхода. У сувязі з сур'ёзнай сітуацыяй наступаючай эпідэміі ды пагрозай жыццю і здароўю ўсіх без выключэння асоб, наш прыход заклікае: 1. прытрымлівацца ўказанняў краёвых санітарных і эпідэміялагічных служб; 2. прытрымлівацца асабістай гігіены і агульнай асцярожнасці". Як відаць, гэтая інфармацыя не згадвае пра надалей абавязковае закрыванне вуснаў і носа ў публічных месцах ды пра ліміт вернікаў у храмах...

У прытворы царквы стаяў у масачцы чалавек з Рудутаў. У царкоўным нефе было поўна вернікаў, большасць іх была без масачак. Стаялі побач сябе і на сябе дыхалі. Вернікаў у масачках унутры храма было мала. Адносна гігіены і асцярожнасці — я гэтага не бачыў, але пасля некаторыя вернікі гаварылі мне, што людзі падыходзілі цалаваць крыж. На той прыклад — у каталіцкіх касцёлах святары падавалі госцію толькі на далонь.

Пачаўся хрэсны ход вакол храма. Я пачынаю рабіць здымкі сваім сціплым фотаапаратам; вялікім апаратам фатаграфуе матушка, некаторыя асобы робяць здымкі мабільнікамі. Падыходзіць да мяне матушка, закрывае свае вусны хусткай:

— Kogo Pan fotografuje?! — пытае, не прадставіўшыся і не спытаўшы хто я.

— Бацюшкоў, — адказваю.

— A dla kogo, dla nas? — дапытвае.

— Для гісторыі, — адказаў я і адышоў у іншае месца для фатаграфавання. Не спадзяваўся я такога пытання; прагучала яно дакорліва. Прыхаджане і духавенства спыніліся перад царкоўным уваходам, набажэнства блізілася да канца. А ў маю старану зноў пасыпаліся допыты матушкі:

— A gdzie to będzie wykorzystane? Czy publicznie?

— Так, публічна. Я заўсёды толькі публічна, і ў газеты, і ў кніжкі — адказаў я і спытаў: — А што — нельга фатаграфаваць?

— Można.

— Я свой, тутэйшы, — падкрэсліваю.

— A kto?

Падаў я сваё імя і прозвішча.

— Nie poznałam Pana w maseczce.

— Як гэта? Мяне ўсе пазнаюць, і ў масачцы.

Быццам не пазнала, але надалей дапытвала:

— Czy będzie to prawda?..

— Праўда то абшырная тэма, — адказваю.

— Szeroki... — неадабральна расквітала мяне і адышла яшчэ нешта гаворачы. Я надалей фатаграфаваў і запісваў набажэнства на мабільнік.

Набажэнства кончылася і вернікі пакідалі царкоўны пляц, разыходзіліся дамоў. А мне ў той дзень царкоўны пляц, як ніколі, падаўся халодным, недаступным, чужым. І было гэта ў дзень храмавага свята ў гонар св. Іаана Багаслова, апостала любові — „Любіце сябе ўзаемна і будзе гэта знак, што любім мы Бога".

❖ Запісаў, апрацаваў і фатаграфаваў **Міхал МІНЦЭВІЧ**



## http://churchby.info

У адным з апошніх нумароў „Ніва" пісала пра калярэлігійны сайт Крыніца.INFO, дзе асвятляюцца падзеі так ці інакш звязаныя з хрысціянскімі канфесіямі, што дзейнічаюць у Беларусі. Своеасаблівым канкурэнтам дадзенага сайта з'яўляецца яшчэ адзін калярэлігійны партал „Царква", які знаходзіцца ў інтэрнэце па адрасе **https://churchby.info**. У адрозненні ад Крыніца.INFO ён выглядае значна больш сціплым. Размешчаны на платформе Wordpress сайт мае дзве часткі на галоўнай старонцы. У большай левай знаходзяцца анонсы разнастайных артыкулаў, а ў меншай, правай — загалоўкі апошніх матэрыялаў, якія адначасова з'яўляюцца спасылкамі на артыкулы.

Падаецца, што адной з цікавых рубрык сайта мусяць быць „Навіны". На жаль, гэта не так, бо апошнія з іх датуюцца лютым. З гэтага трэба зразумець, што праект „Царква" пакрысе памірае і яго ўладальнікі не ведаюць, як гэтую смерць спыніць.

Калі прасачыць па датах публікацый на сайце, то можна высветліць, што існуе ён не менш за дзесяць гадоў. Аднак нават за такі працяглы час існавання яго ўладальнікі так і не здолелі распавесці пра праект і навошта яны яго ажыццяўляюць. Так, у рубрыцы „Пра партал" месціцца надпіс ад 7 красавіка 2010 года „Інфармацыя ў стадыі падрыхтоўкі". Таксама на старонцы акенца для адпраўкі электроннага ліста. Такі падыход да самапрэзентацыі выключна адмоўна характарызуе стваральнікаў сайта.

Вартай увагі наведвальнікаў партала з'яўляецца рубрыка „Артыкулы". Праўда, там таксама абнаўлення даўно не было, аднак тэмы, якія там асвятляюцца, дагэтуль застаюцца актуальнымі. Напрыклад, артыкулы, якія тычацца асобы Кастуся Каліноўскага, якога шмат хто з праваслаўных беларускіх святароў не лічыць за героя нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

На тле падзей апошніх гадоў у рэлігійным жыцці Украіны, калі там аформілася прызнаная Канстанцінопалем незалежная ад маскоўскага патрыярха царква, на сайце распачалася дыскусія аб вартасці набыцця большай самастойнасці і Беларускай праваслаўнай царквы (БПЦ). З матэрыяламі па дадзенай тэме можна пазнаёміцца ў рубрыцы „Каментары".

Даволі цікавай з'яўляецца рубрыка „Дакументы". Там месціцца разнастайныя петыцыі і лісты ў адрас вышэйшага праваслаўнага беларускага кіраўніцтва, а таксама свецкіх структур. Адным з вартых увагі лістоў можна назваць ліст да мітрапаліта Паўла ад Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Краязнаўцаў і актывістаў руху захавання гістарычнай спадчыны беларускага народу турбуюць негатыўныя працэсы, што адбываюцца з будынкамі, якія належаць БПЦ. Гэта перш за ўсё тычыцца змены форм канструкцый дахаў. Так, барочныя ці класічныя завяршэнні замяняюцца цыбулепадобнымі, а таксама выкарыстоўваюцца дахавыя матэрыялы залатога колеру замест традыцыйных для Беларусі матэрыялаў, як па ходжанні, так і па колеры.

„Непавага да гісторыка-культурнай спадчыны — гэта непавага да народу, і праявы непавагі да беларускага народу недапушчальны для любой рэлігіі, для любой канфесіі. Негатыўнае, нігілістычнае стаўленне да помнікаў гісторыі і культуры з боку прадстаўнікоў Беларускага экзархату Рускай праваслаўнай царквы кідае цень на ўсю царкву і падрывае давер да яе сярод грамадзян Беларусі", — указваецца ў лісце да вышэйшага беларускага праваслаўнага кліру.

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

## 110 гадоў з дня нараджэння
## Аляксея ГРЫЦУКА

Беларускі грамадскі дзеяч, гісторык, літаратуразнавец, настаўнік, старшыня Згуртавання беларусаў Канады Аляксей Грыцук нарадзіўся 3 ліпеня 1910 г. у вёсцы Міхнаўка цяперашняга Гайнаўскага павета. Яго бацька Юльян і маці Хрысціна з дому Харкевіч мелі вялікую сям'ю — чатырох сыноў і пяць дачок. Сям'я была рэлігійная, у ёй шанавалі народныя традыцыі і звычаі. Калядныя песні, якія так любіў спяваць Аляксей, засталіся ў яго памяці з маленства, і ведаў ён іх шмат. Бацька трымаў даволі вялікую гаспадарку, а таксама паравы млын у Старым Ляўкове.

Вучыўся Аляксей спярша ў Гайнаўскай гімназіі, потым у Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. У сярэдзіне 1930-х гг. быў прызваны ў польскае войска, служыў у Лідзе ў 77-м палку ў званні падхарунжага. У войску яму прапаноўвалі памяняць веравызнанне з праваслаўнага на каталіцкае для кар'ернага росту, але Грыцук адмовіўся. Пасля войска Грыцук некалькі гадоў працаваў настаўнікам у Браслаўскай гімназіі, дзе выкладаў гісторыю і завочна вучыўся на гістарычным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. У 1938 г. скончыў яго са ступенню магістра гісторыі. У час нямецкага ўварвання ў Польшчу быў мабілізаваны ў войска, удзельнічаў у верасні 1939 г. у абароне Варшавы. Паранены, трапіў у палон. Ляжаў у варшаўскім шпіталі, адкуль, крыху ачуняўшы, удалося ўцячы на радзіму ў Ляўкова, куды ўжо прыйшлі савецкія войскі.

У 1940-1941 гг. Грыцук настаўнічаў, выкладаў літаратуру ў Настаўніцкім інстытуце ў Беластоку. У час нямецкай акупацыі Аляксей Грыцук — сябра Беларускага камітэта ў Беластоку. У чэрвені 1942 г. прызначаны інспектарам беларускіх школ Беластоцкай акругі, апрацоўваў школьныя падручнікі. За непрацяглы час Грыцуку ўдалося стварыць на Беласточчыне больш 80 беларускіх школ. Яго паплечнікамі былі Хведар Ільяшэвіч і Уладзімір Тамашчык. У 1944 г. Грыцук — асветны афіцэр у Беларускай Краёвай Абароне. Чытаў лекцыі па гісторыі ў 1-ым кадравым батальёне БКА ў Берліне. Брат Грыцука, Мікалай, таксама быў у БКА. Ён быў у беларускім антыбальшавіцкім падполлі ў групе пад кіраўніцтвам Усевалада Родзькі, а пасля знік без вестак.

З лета 1944 г. Грыцук выехаў на захад у эміграцыю ў Нямеччыну. Тры гады ён пражыў у аўстрыйскім Зальцбургу, дзе разам з Уладзімірам Дудзіцкім, Міколам Ганьком, Алесем Салаўём арганізаваў беларускі камітэт. У той час, калі яшчэ не было ніякіх віз на выезд з Аўстрыі, ён хадзіў нелегальна цераз Альпы ў Нямеччыну, каб наладзіць лучнасць з Радай БНР, якая тады была ў Мюнхене. У той час у Аўстрыі ён пазнаёміўся з Вольгай, будучай жонкай.

У студзені 1948 г. Аляксей Грыцук выехаў у Канаду, пасяліўся ў Таронта, дзе браў актыўны ўдзел у грамадскім і царкоўным жыцці беларускай грамады. Узначальваў Згуртаванне беларусаў Канады ў 1965-1967 і ў 1970-1972 гадах, быў адным з актывістаў парафіі святога Кірылы Тураўскага, старшынёй Сектара Рады БНР. Вельмі любіў беларускую паэзію. Напісаў доктарскую дысертацыю, прысвечаную творчасці Максіма Багдановіча. Працаваў ва Універсітэце Куінс у Кінгстане (Антарыя).

Памёр Аляксей Грыцук 30 траўня 1976 года ў Кінгстане, пахаваны на могілках гэтага канадскага горада. На яго магіле лацінкаю выбіты надпіс: „Змагар за волю Беларусі, хай сняцца табе родныя гоні". Жонка Грыцука Вольга напісала ўспаміны „Мы стваралі сваю Беларусь: Жыццё і дзейнасць Аляксея Грыцука". Кніга была выдадзена ў Мінску ў 2007 годзе.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

**Геня Бура**, Аседле Бандары

## Царква

Стаіць на пагорку драўляная царква,
Сваімі купаламі свеціць яна,
І крыж найвышэйшы да неба расце,
І воблакам белым свае песні нясе.

Чаму ты такая святая — пуста,
Дзе-ж вашы сэрцы? — пытае яна, —
Прыходзьце да мяне, маліцеся заўсёды.
За гэта буду ўдзячна я.

Я малых і дарослых да сябе прыму,
У цяжкай долі табе памагу.
Маліся ты да Бога ўдзень і ўночы,
Пакуль яшчэ бачаць твае вочы.

Помні, што ты ў гасцях на гэтым свеце,
Тут сонца іграе і радасна свеціць.
Калі хочаш у небе, у царстве святым быць,
То неабходна табе ў царкву святую хадзіць.

## Мая Капітаншчына

Мая Капітаншчына, цябе я люблю,
я часта прыязджаю на радзіму сваю.
Усё мне тут міла на гэтым сяле,
хоць новая вуліца не тудой ідзе.
Няма бруку, па якім змоладу хадзіла я,
няма саламяных стрэх хат,
пабудавалі тут новыя дачы пад рад.
І лаўкі на вуліцы пустыя сталі,
няма тых людзей, што на іх сядалі.

Лес акружае роднае сяло,
рэчка Нараўка недалёка вядзе свой вянок.
Мая Капітаншчына, ты мне дарага,
шчаслівае дзяцінства я тут правяла.
Да цябе прыязджаю з далёкай пуці,
яшчэ мяне вітае мой брат дарагі,
Яшчэ мяне вітаюць пастарэўшыя бацькі.
Да цябе я прыеду, покі буду жыць,
Я табе верна, мне цяжка цябе пазабыць.

**Яўгенія БУРА** нарадзілася ў вёсцы Капітаншчына Нараўчанскай гміны. Хадзіла ў школу ў Старым Ляўкове. Выйшла замуж у Таніцу-Гурну Міхалоўскай гміны. Пасля смерці мужа жыве ў Аседлі Бандары Міхалоўскай гміны. Піша вершы на беларускай мове, на паўночна-заходнім (тутэйшым) дыялекце беларускай мовы, на польскай і расейскай мовах.

## Фэстын у Бандарах

Сёння ў Бандарах вялікае свята,
тут крамы стаяць багаты,
тут і музыка іграе,
тут і публіка спявае.

Раз у год — мы яго чакаем,
усіх у госці запрашаем,
п'ем, ямо, усе танцуем,
нашы Бандары радуем.

Прыязджайце да нас — не забывайце,
усе наш фэстын праслаўляйце,
песні родныя спявайце,
роднай мовы ніколі не забывайце.

Наша мова — як наша маці,
мы гаворым на ёй ад дзіцяці,
у працы, у хаце, на зялёных лугах,
яна звініць заўсёды ў маіх вушах.

### Лета і кветкі ў Нараўцы

У цёплую пару года зачароўваюць нас сваёй цудоўнай прыгажосцю кветкі. Любім іх. Асабліва да іх хараства неабыякавы наш прыгожы пол. Жанчыны найбольш іх садзяць і пастаянна даглядаюць. Гэта, між іншым, адзін з іх любімых заняткаў. Жанчыны любяць, калі мужчыны дораць ім кветкі.

Зараз кветкі ўпрыгожваюць гарады і вёскі. З кветкамі прыемней на вуліцах, скверыках і парках. 25 чэрвеня гэтага года ездзіў я на ровары ў Нараўку. Найбольш кветак, між іншым, сініх, чырвоных і бардовых зацвіло перад вялікім драўляным будынкам Галерэі імя Тамары Саланевіч (тут зараз найпрыгажэй) ды многа чырвоных, белых і сініх кветак пасадзілі перад школай. Чырвоныя кветкі бягоніі красуюць у трох вялікіх вазонах перад Гмінным асяродкам культуры.

Зараз свежа пасадзілі кветкі каля помніка пры скрыжаванні вуліц Міцкевіча і Гайнаўскай ды перад амбулаторыяй на скрыжаванні вуліц Новай і Каляёвай. Многа кветак пасадзілі ў вазонах пры сцежцы каля амфітэатра над рэчкай. 25 чэрвеня г. г. жанчыны садзілі кветкі на клумбах перад пляцоўкай аўтобуснага прыпынку ПКС і прыватнага пасажырскага транспарту па вуліцы Гайнаўскай. Тут будзе прыгажэй, чымсьці было дагэтуль. **(яц)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. дэкаратыўная расліна з блакітна-ліловымі або белымі пахучымі кветкамі = 4 _ 7 _ 3 _;
2. бакал = 14 _ 2 _ 18 _ 19 _ 20 _;
3. краіна Дзеда Мароза = 12 _ 13 _ 10 _ 11 _ 1 _ 17 _ 26 _;
4. узаранае поле = 6 _ 15 _ 16 _ 25 _ 5 _;
5. возера між Ушачамі і Глыбокім = 8 _ 24 _;
6. перамяшчэнне на байку, кані, возе, самакаце = 22 _ 9 _ 23 _ 21 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | | | | | | |
| | | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | | | | | |
| | | | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| | | | | | 23 | 24 | 25 | 26 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 23 нумара**

Брытва, Вац, моц, руда, сад, Сона, сум, табу, торт, труна, цар, ціс, Ясельда.

Рашэнне: **У моладасці рвемся да турбот, на старасць турботы рвуцца да нас**.

## 05.07 — 11.07

**(22.03. — 20.04.)** 5-9.07. гарантаваны поспех прынясе рашучае і хуткае дзеянне. Кіруйся розумам і сваім інстынктам. Ды хтосьці схоча ўцягнуць цябе ў вір сваіх спраў; зайграе на тваім пачуцці віны ці будзе цябе шантажыраваць. 4-8.07. стаўленне ўсяго на адну карту можа цябе абанкруціць. Ліпень прымусіць цябе да дзеяння ў на найбольшых абаротах.

**(21.04. — 21.05.)** Выкарыстай перыяд удач і ажыццяўляй свае планы. Можаш сустрэць асобу, з якой будзе незвычайная сувязь. Гарантаваныя поспехі ў кампаніі. Нагоды для заробку. Дома не пераборшчвай з роляй пана і ўладара. 7-9.07. чакае цябе важная размова з партнёрам.

**(22.05. — 22.06.)** Возьмеш справы ў свае рукі і давядзеш іх да паспяховага канца. Не дайся ўкруціцца ў брудныя гульні. Чалавечая карысліваць будзе асабліва гадкая для цябе. Не будзеш грашыць сціпласцю, бо ўсюды зайграеш на першай скрыпцы. Старое каханне не ржавее.

**(23.06. — 23.07.)** Не можаш нічога страціць, дык пазмагайся за найвышэйшую стаўку. З 3.07. (аж да 18.07.) можаш зрабіць штосьці непаўторнае. Пераможаш сваю нясмеласць, будзеш гаваркі, прылюдны і дасціпны. З мінулага выцягвай канструктыўныя высновы, а калі не, дык кінь роздумы.

**(24.07. — 23.08.)** Чым менш заплануеш, тым больш здабудзеш. З 7.07. будзеш імпанаваць сваёй спеласцю, кампетэнтнасцю і адказнасцю. Пераканаешся ў каштоўнасці сяброўства. На працы можаш стаць ахвярай зайздрасця супрацоўніка. Не абяцай нічога асаблівага па звычайным жэсце сімпатыі. Дбай аб здароўе, трымайся парад лекараў.

**(24.08. — 23.09.)** Развінеш свае зацікаўленні і сустрэнеш цікавых людзей. Варта таксама пазмагацца за моцную пазіцыю на працы. Можаш разлічваць на сваю інтуіцыю, якая падкажа напрамак дзеяння ў і шанцы поспеху. Ды будзе хтосьці дзейнічаць табе на нервы; на драбязу не звяртай увагі. У пачуццях крайнія настроі.

**(24.09. — 23.10.)** Усё ўдасца дасягнуць, але пры ўмове, што запануеш над эмоцыямі. 3-7.07. дамаўляйся на сустрэчы, падпісвай важныя дакументы. Хоць першыя дні надта нервовыя, поўныя пачуцця нездзейсненасці. Ды не трапляй у роспач. Сітуацыя як у калейдаскопе. 5.07., калі Венера перасунецца да ззяючых Блізнят, будзеш поўны ініцыятывы, шалёных ідэй, з якіх большасць можаш зрэалізаваць.

**(24.10. — 22.11.)** Знікнуць стрэсы і турботы. Адпачынак і добрая кампанія. 5-9.07. — ідэальны момант на бравурныя дзеянні. Знаёміта табе пойдзе ў прыватных справах, рандэву будуць проста касмічныя, а блізкія захопяць цябе сваім энтузіязмам. Ды 4-06.07. не пераконвай іншых да сваіх думак, каб не было непатрэбных спрэчак. Работа гарыць табе ў руках.

**(23.11. — 22.12.)** На ўсё знойдзеш сілы, час і ахвоту. Хопіць адданых сяброў. Але ў фінансах будзь асцярожны. Да 13.07. шчаслівыя выпадкі, добры настрой, нечаканыя здзейсненні мараў. Але ў першыя дні не пераацэньвай сваіх магчымасцей.

**(23.12. — 20.01.)** Смела рушыш уперад і ўвядзеш у жыццё немалыя змены. Твая пазіцыя і ўплывы значна ўзрастуць. З 7.07. выкажашся рашучасцю, адчаем, дысцыплінай. Мэту дасягнеш хутчэй, чым думаеш. Але разлічвай толькі на сябе самога. Пачакай з падпісваннем важных папер.

**(21.01. — 19.02.)** Хопіць табе інспірацыі і энтузіязму, хаця не ўсе будуць з табою іх дзяліць, але не злуйся на іх. Дастанеш шанц выправіць старыя памылкі. Вялікі прыліў энергіі і сілы. Будзеш больш хуткі, энергічны, моцны характарам. Добра пільнуй важныя дакументы. У пачуццях проста фантастычна. Самаўпэўненасць, адвага і рашучасць — шлях да поспеху. 7-9.07. асабліва трымай нервы на павадку.

**(20.02. — 21.03.)** Добры час на забаву ды адпачынак, але і цяжкую працу. Удасца паміж імі знайсці табе залатую сярэдзіну. Без праблем дастасуешся да змен. Цвяроза ацэніш сітуацыю. Спачатку — страх перад невядомым і фінансавыя непаладкі. Будзь вельмі асцярожны на пакупках. З 7.07. (да 13.07.) будзеш захоплены — невялікім высілкам дасягнеш вельмі шмат. 4-8.07. можаш пачаць змагацца за непатрэбнае для цябе; тут інтуіцыя можа не падказаць найлепшага.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.



# Такі быў пачатак

**У 1963 годзе беластоцкі журналіст Аляксандр Амільяновіч так пісаў пра пачатак нямецкага нападзення на Савецкі Саюз у чэрвені 1941 года: „Настала другая палова чэрвеня 1941 года і людзі ў Слохах — як штогадова ў гэтую пару — працавалі на лугах пры сенакосе. 22 чэрвеня была акурат нядзеля. Той дзень, а дакладней ранак, прынёс вайну і тыя падзеі, якія разыграліся ў Слохах і наваколлі. Артылерыя загрымела ў 3.15. Па гадзіне артабстрэлу пяхотныя дывізіі маршала фон Клюге і танкі генерала Гудэрыяна фарсіравалі Буг, урываючыся глыбока ў савецкую абарону. Шаша з Драгічына цераз Слохі была галоўным маршрутам наступлення гітлераўскай арміі на ўсход...".**

А месяцамі раней на ўзгорках за Слохамі ўзводзіліся савецкія ваенныя ўмацаванні, названыя „Лініяй Молатава". Не ўсе бункеры былі даведзены да стану баявой гатоўнасці. У момант выбуху вайны частка байцоў была ў бункерах, частка была ў вёсцы, у Слохах-Аннапольскіх. Амільяновіч: „У вёсцы былі напагатове нешматлікія групкі афіцэраў і байцоў. На трэці дзень абароны ў вёску ад Драгічына ўварвалася некалькі грузавікоў з немцамі. Лейтэнант Яськоў абкінуў іх гранатамі. Праз нейкі час з-за бугарка паказаўся штабны лімузін. З бункера зайграў да яго станковы кулямёт. Машына пакацілася ў адхон. Выпаў з яе афіцэр і прылёг да шашы. Лейтэнант Яськоў цікаваў на кучы жвіру. Цэліў доўга і цярпліва. Немец поўз асцярожна на другі бок шашы. Стрэл быў меткі. Гітлераўскі маёр застыў на шашы. Раненага шафёра людзі са Слох прынеслі ў вёску, абвязалі рану, накармілі. Ноччу ўварваўся ў вёску нямецкі патруль і забраў раненага...".

Віктар Рудчык у нiўскім цыкле «Буг у агні», апублікаваным у 1980 годзе, так пісаў пра гэтае здарэнне, расказанае Аляксандрам Панасюком: «Калі нашы людзі пайшлі паглядзець гэтага маёра, бачаць — яго шафёр яшчэ дыхае. Занеслі яго ў школу... Кажуць, што гэтага шафёра зараз адправілі за Буг у шпіталь. Гэта было ў аўторак, а ў сераду — недзе так каля дзясятай гадзіны ў Слохах паявіліся ізноў гітлераўскія салдаты. На адным панадворку, пераважна тут ад Буга, немцы, а ў суседнім — рускія, што выйшлі з бункераў, каб чым-колеч падсілкавацца ў гаспадароў. Немцы не спадзяваліся рускіх і наадварот. Глядзяць на сябе з-за плота і не страляюць. Мы таксама глядзім на гэта і чакаем: што з таго будзе? Аказваецца вось што: немцы адыходзяць з вёскі, а рускія хаваюцца ў доты. Нам быццам камень хто зняў з грудзей. Бо вядома, дзе хто-колеч ваюе, там найбольш цярпіць мірны народ... Прайшло мінут 20-30 і... пачалося пекла. Б'юць гарматы, вёска гарыць... Што ж, калі гарыць, дык трэба ратаваць. Бягу на ратунак. Ад дзедаў-прадзедаў ужо ў нас так заведзена, што селянін дапамагае селяніну ў бядзе. Дабег да сярэдзіны вёскі, а там крычаць, што і людзей гітлераўцы б'юць... Каго б'юць на месцы, каго на расстрэл гоняць за вёску на выган, а каго нават і ў агонь упіхаюць... А я стаю пасярэдзіне хаты і думаю: што мне рабіць? І тады прыгадаў, што ў мяне асталося цяля, вялікае, добрае, ужо адсаджанае ад каровы. Шкада яго, думаю, згарыць, беднае... Закінуў я сабе цяля на плечы і бягу на агарод. А на вуліцы ўжо немцаў паўным-паўно. І суседа Мікалая б'юць, ці знуткуюцца над ім, бо крычыць ён, як са шкуры абдзерты. Дык я яшчэ хутчэй. Немцы мяне не чапаюць. Толькі смех іх чую. Зачапіўся я за нейкі корань і паляцеў носам у траву. А цяля на мяне, бо з рук не выпусціў. Гітлераўцы яшчэ галасней зарагаталі. Чую, што яны зусім блізка, абступілі з усіх бакоў... Што рабіць? Памаленьку падымаю галаву з рукамі высока выцягнутымі ўверх, і чакаю... зараз... праз хвілінку... вось... вось... каторы з іх стрэліць... Перада мною равецца маё цяля, намагаючыся падняцца на ногі... Я забываю аб карніках і зноў хапаю сваё цяля. А яны са смеху аж за жываты бяруцца...».

Амільяновіч: „Штурм на Слохі і бункеры настаў 25 чэрвеня. Немцы ішлі ў атаку хвалямі. Ачаплялі вёску шчыльным кальцом. Дарваліся да першых будынкаў. Запалалі саламяныя стрэхі. Палілі двор за дваром. Спатыканых людзей застрэльвалі, калолі штыкамі, забівалі прыкладамі. Адпомшчвалі невінноўным за супрацію ў бункерах на ўзгорках, за смерць маёра, за тое, што тут наважыліся спыняць іх трыумфальны марш, калі іх бронетанкавыя наезды дарваліся да подступаў Мінска і валілі на Маскву. Пасярод палёў, лугоў і пажарышча гналі захопленых людзей на смуг і расстрэльвалі... Апошніх жыхароў Слох да вечара сагналі ў стадолу Сямёна Гуменюка і адтуль раніцай пагналі на расстрэл. Ідучыя бачылі выкапаны дол. Кур'ер на матацыкле дагнаў канвой і перадаў загад. Людзей адпусцілі...".

Міхал Гнатоўскі ў кнізе „Wieś białostocka oskarża" прыводзіць расказ Якуба Семенюка: „Калі нямецкія салдаты ачапілі вёску і падпалілі будынкі, стралялі да ўцякаючых, а старэйшых забівалі штыкамі. Захопленых вывелі за вёску, згуртавалі асобна мужчын і асобна жанчын з дзяцьмі. Мужчын паставілі ў шарэнгу, выбіраючы кожнага дзясятага. Адабраных дванаццаць чалавек вывелі за вёску і расстралялі. Апошніх, у ліку якіх апынуўся і я, загналі ва ўцалелы ад пажару дом Сямёна Гуменюка і трымалі нейкі час. Пасля вывелі на вуліцу і заўважылі, што не хапае аднаой асобы. Увайшлі ў хату Гуменюка і пабачылі, што астаўся ў ёй Пётр Раманчук, які спаў на хлебнай печы. Вывалаклі яго на дарогу і на нашых вачах расстралялі. Усю нашу групу вывелі за вёску і выстраілі над прыдарожным ровам. Мы думалі, што нас расстраляюць. У той час прыехаў нямецкі афіцэр, які загадаў вызваліць нас. Неўзабаве салдаты ад'ехалі з вёскі. Тады мы пахавалі памардаваных...".

Міхал Гнатоўскі падае, што ў ходзе пацыфікацыі Слох было забіта 47 асоб, падаючы прозвішчы сарака васьмі. У іншых крыніцах мова і пра 72 смяротныя ахвяры. На помніку пасярэдзіне вёскі пададзены лік 58 асоб. На тым жа помніку напісаны прозвішчы 48 чалавек...

Не толькі Слохі-Аннапольскія сталі ахвярай гітлераўскай ідэалогіі над- і падлюдзей. Іншыя навакольныя вёскі таксама. У Клекатаве таксама гітлераўцы спалілі вёску, а людзей расстрэльвалі. Міхал Гнатоўскі прыводзіць расказ Юліі Гумяняк:

„Нямецкія салдаты падпальвалі будынкі. Найперш запальвалі звязкі саломы, а пасля кідалі іх на стрэхі. Калі нашы будынкі ахапіла полымя, выбегла я з хаты разам з мужам, братам, бацькам і дзіцём на панадворак. Адышлі ўбок ад палаючых будынкаў і тады нечакана салдаты майго мужа Аляксандра і брата Майсея без ніякага абгрунтавання расстралялі каля калодзежа побач хаты Яна Гумяняка...". У Клекатаве гітлераўцы расстралялі дзевяць чалавек...

Суседнія Агароднікі гітлераўцы таксама спалілі і застрэлілі сем асоб — тры жанчыны і чатырох мужчын. У Вульцына-Бугу гітлераўцы забілі 14 асоб, у іх ліку дзве жанчыны... Чарговыя злачынствы — Райск, Хатынь, Лідзіцы, Арадур — чакалі сваёй чаргі...

Крывавыя падзеі ў пабужскіх вёсках адбыліся галоўным чынам 25 чэрвеня, у дзень калі праваслаўныя адзначаюць памяць святога Ануфрыя. Меркаваў я падацца ў Слохі-Аннапольскія менавіта ў той дзень, у гадавіну пацыфікацыі, у тамашнюю царкоўку прысвечаную Марыі Магдаліне. Аднак на старонцы Сямятыцкага прыхода, у якім Слохі, было пададзена, што набажэнства ў тамашняй царкоўцы будзе правіцца ў нядзелю, 28 чэрвеня. Спадзяваўся я, што перад помнікам памардаваным, што пасярэдзіне вёскі, будзе правіцца хаця паніхіда, так як гэта дзеецца ў Райску. Аднак стараста, якога я спытаў пра малебен, сказаў мне, што паніхіда будзе правіцца на месцы, у царкоўцы.

Нечаму дзівавацца — на набажэнстве прысутнічала каля дваццаці асоб, галоўным чынам жанчын. Ісці з шэсцем да помніка трэба было б з харугвамі, а ў нас жанчыны харугваў не носяць... Няма каму маліцца на памятным месцы. Пасля літургіі быў адслужаны акафіст за памерлых. Можа гэта і самы акуратны спосаб ушанавання ахвяр чэрвеньскіх падзей 1941 года на „Лініі Молатава". Там жа загінулі не толькі дзясяткі мясцовага насельніцтва, якія можна ўлічыць у лік падляшскіх і холмскіх мучанікаў, але і тысячы прызыўнікоў з шырокага свету, якім не суджаны былі дастойныя пахавіны, якіх астанкі можа пакояцца ў ананімных магілах, а можа яны спачылі ў зусім невядомых месцах, мо спапяліліся ў палаючых „точках", а прах ад іх на свой лад прыгарнула прырода...



Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 27